Тады Лагун спахапіўся і, як бы злуючы на сябе, сарваў з галавы шапку. І ўсе знялі шапкі.

У Навазыбкаве салдаты рэвалюцыйнага палка сустракалі браняпоезд са сцягамі. Чыгуначны аркестр іграў «Інтэрнацыянал».

## МАТРОС З «АЛЕГА»

...Паднялі нас па сігналу баявой трывогі. Хоць час быў неспакойны — на Доне, на Волзе ўзнімалася контррэвалюцыя, а побач, у Фінскім заліве, нахабна плавалі немцы, паказвалі сваю сілу,— крэйсер, наш даўно ўжо не выходзіў у адкрытае мора, стаяў на Кранштацкім рэйдзе, а таму мы, матросы, кажучы па-простаму, троху разленаваліся. Не верылі ў марскі бой. Англійскія буржуі ў заліў не пасунуцца: пабаяцца нас і немцаў.

Тыя з братвы, каму не па нутру была стаянка на якары, запісваліся ў сухапутныя атрады, каб пайсці на фронт.

Права выбіраць камандзірамі сваіх жа матросаў не магло не адбіцца на флоцкай дысцыпліне. Некаторыя лічылі, што галоўнае — разбурыць усё старое, што напрыдумлялі паны афіцэры, а тады, маўляў, нам мора па калена, тады адразу запалім пажар сусветнай рэвалюцыі.

Але трывожныя ўдары карабельнага звону, ад якіх пачалі адвыкаць, падхапілі людзей у міг. Ніхто не ішоў у развалку — ляцелі так, што ад тупату ног па жалезных лесвіцах гудзеў бранявы корпус крэйсера. Гул гэты электрычным токам біў у сэрца, калі я, пераскокваючы цераз пяць усходцаў, узбіраўся ў артылерыйскую вежу.

Што здарылася? Чаму трывога? Адкуль наступае вораг?

Я камандаваў насавой вежай буйнога калібру, да рэвалюцыі на гэтай пасадзе лейтэнант быў.

Далажылі аб гатоўнасці гармат к бою. Але куды страляць, калі карабель мертва стаіць на якары? Няўжо вораг падышоў да Кранштата? Чаму ж маўчаць машыны? Чаму не выходзім у мора? З такімі пытаннямі наступалі на мяне матросы. Але я ведаў столькі ж, колькі і яны.

Ды прагучалі яшчэ больш незразумелыя каманды: адбой баявой трывогі і адразу ж — сігнал пастраення на верхняй палубе, чаго, між іншым, таксама даўно не было, бо такое пастраенне лічылі афіцэрскай выдумкай і на мітынгі збіраліся проста так — па сігналу сэрцаў, па клічу камісараў.

Аднак у той дзень ніхто слова не прамовіў пра «аднаўленне старых парадкаў». Пастроіліся хутчэй, чым да рэвалюцыі, калі была палачная дысцыпліна, можа, нават хутчэй, чым год назад, у верасні семнаццатага, калі рускія караблі пайшлі ў Рыжскі заліў, да Маанзундскіх астравоў, насустрач нямецкаму флоту. Тады матросы не бранёй, а грудзьмі сваімі перагарадзілі кайзеру дарогу на рэвалюцыйны Петраград.

Няўжо зноў немцы? Ці, можа, паднялі паўстанне недабітыя буржуі, тут, у Петраградзе, каб падтрымаць контррэвалюцыю на Волзе?

Каманда крэйсера ў той час была няпоўная: пайшлі атрады на фронт, неслі каравульную службу ў Піцеры. Чалавек чатырыста застыла ў шарэнгах на палубе, гатовыя на бой і на смерць. Ніводнага слова. Толькі вочы, позіркі вачэй выдавалі нецярплівасць: што здарылася? Кажы хутчэй, камісар!

Камандзір крэйсера, камісар, члены судавога камітэта і чалавек у цывільным — пэўна, ён прывёз трывожную навіну! — стаялі перад строем, каля парэнчаў, такія ж засяроджаныя, але не па баявому напружаныя, а як бы прыбітыя бядой, горам.

Гаварыць пачаў камісар. Голас, заўжды спакойны, перарываўся, быццам у твар яму біў дзевяцібальны вецер і чалавек захлынаўся ад гэтага ветру.

— Таварышы матросы! Браткі! — так ніколі раней ён не звяртаўся, бо прыйшоў на крэйсер з завода.

Такі зварот яшчэ больш пасцярожыў нас.

— Сусветная буржуазія, унутраная контррэвалюцыя, каледзінцы, аляксееўцы, белачэхі ды іншая контра хацелі нанесці ўдар у самае сэрца нашай рэвалюцыі, у самае сэрца працоўнага народа Савецкай Расіі. Учора яны ўзнялі сваю злачынную руку...— тут камісар зноў як бы захлынуўся.

— На Леніна? — вырвалася ў мяне.

Строй калыхнуўся, парушыў роўнасць шарэнгі. Цяпер ужо для мяне быццам здалёк, праз свіст ветру і грукат буры, даляцеў камісараў голас:

— Але. На таварыша Леніна. На Уладзіміра Ільіча... правадыра сусветнай рэвалюцыі.

— Не цягні, камісар! Скажы: жывы? — крыкнуў нехта з матросаў.

Ступіў ад парэнчаў цывільны, узняў руку, просячы ўвагі:

— Жывы таварыш Ленін! Жывы!

Як з адных грудзей, вырваўся ўздых. Паламаная шарэнга пачала выпрамляцца, быццам па камандзе «смірна!». Не было такой каманды, але яе дало сэрца кожнага.

Гэта было не звычайнае паведамленне, няхай нават самае трывожнае, як, напрыклад, нядаўнія — пра эсэраўскі мяцеж у Маскве і бунт чэхаславацкага корпуса. Гэта было такое, што не проста кранула сэрцы, а ўдарыла ў іх, як самы нечаканы і магутны — не на адзін карабель — на ўвесь свет! — сігнал баявой трывогі.

Гаварыў цывільны, пасля зноў — наш камісар чытаў афіцыйнае паведамленне ЦВК. Змова контррэвалюцыянераў шырокая: пра забойства Урыцкага мы пачулі яшчэ ўчора ўвечары. Караблі салютавалі на смерць старшыні Петраградскай ЧК жалобнымі гудкамі. У змроку жнівеньскага вечара тут, на палубе, праводзілі мітынг. Цяпер гэтыя падзеі звязваліся ў адзін ланцуг.

Я стаяў у шарэнзе, слухаў камісара і ў думках сплятаў звенні гэтага ланцуга, прыгадваючы многія падзеі таго першага года рэвалюцыі. Перш за ўсё ўспомніўся адзін вельмі памятны мне дзень.

Роўна восем месяцаў назад я нёс службу ў каравульнай камандзе пры Смольным. І была ў мяне мара: трапіць як-небудзь вартавым на пост, які мы ў думках, у размовах паміж сабой называлі галоўным — каля кабінета Старшыні Саўнаркома Леніна. Хацелася мне ўбачыць правадыра зблізку, сустрэцца, як кажуць, тварам у твар, можа нават пагутарыць. А хто тады не марыў пагутарыць з Леніным! Расказвалі тыя, хто стаяў на гэтым пасту, што Ленін заўсёды знаёміўся з кожным новым вартавым, вітаўся і гутарыў. Я ж да таго бачыў Леніна толькі здалёк — слухаў выступленне ў Марыінскім палацы і аднойчы з акна Смольнага ўбачыў, як Ленін садзіўся ў аўтамабіль. Але трапіць на ўнутраны пост ніяк не шанцавала ні мне, ні маім сябрам. Там стаялі чырвонагвардзейцы. Нам, матросам, даручалі знешнюю ахову Смольнага, а таксама тэлефоннай станцыі, тэлеграфа. Хто-ніхто выказваў крыўду, што, маўляў, нам не вельмі давяраюць пасля анархісцкага бунту ў другім флоцкім экіпажы. Але я так не думаў. Хіба меншая адказнасць ахоўваць увесь будынак, дзе размяшчаўся Савецкі ўрад? А тэлефон, тэлеграф, праз якія ўрад, Ленін звязваюцца з усёй Расіяй? Толькі непісьменны які пехацінец мог не разумець гэтага, а я меў чатыры класы прыходскай школы і тры гады службы на флоце.

Я не траціў надзеі, што калі-небудзь стану-такі на той пост і... сустрэнуся з Леніным.

Пасля абеду на Новы год я пайшоў каравульным да цэнтральнага пад'езда. Гэта быў цікавы пост, час тут праходзіў хутка, бо вартавых было два, і яны не стаялі без справы: людзей праходзіла мноства, самых розных — правяраеш пропускі, прыглядваешся да наведвальнікаў, перакідваешся словамі з імі і не заўважаеш, як ляціць час. У той дзень я стаяў з чырвонагвардзейцам пуцілаўскага завода, гэткім жа, як я, маладым і гаваркім хлопцам. Між іншым, можа таму, што па старым звычаі петраградцы адзначалі Новы год, наведвальнікаў было менш, чым звычайна.. Але ў Смольным усе працавалі, усе наркаматы.

На парадны ганак выйшлі камендант будынка і начальнік усяго смольненскага каравула. Начальнік сказаў нам:

— Трымайце, хлопцы, насы вышэй. Зараз будзем прымаць усю сусветную буржуазію.

Мы ведалі, што камандзір наш — чалавек вясёлы, і засмяяліся з яго жарту.

— Глядзі — не вераць. Не хочуць мець ніякіх спраў з буржуазіяй, — таксама смеючыся, сказаў ён каменданту, і зноў да нас: — Пропускаў у буржуяў не будзе, мы з таварышам камендантам іх правядзем.

Тут я зразумеў, што чакаецца нешта цікавае і загадкавае. Сапраўды, хвілін праз колькі да Смольнага адзін за адным пачалі пад'язджаць чорныя аўтамабілі са сцяжкамі. Штук дваццаць падышло. Я ведаў сцягі дзяржаў — вучылі на караблі, убачыў на першай машыне амерыканскі, на другой — французскі, далей — англійскі, шведскі... і адразу сцяміў, што гэта — паслы. Але што ім спатрэбілася, калі я ведаў з газет, з палітычных

дакладаў, што дзяржавы тыя не прызналі Савецкую ўладу?

З аўтамабіляў вылазілі паважныя паны ў багатых футрах. Сабраліся ў чараду, як тыя ваўкі ў пілiпаўку, нешта забалбаталі пасвойму.

Усе наркомы віталіся з вартавымі. Гэтыя ж паны прайшлі, нават не глянуўшы на нас. Але затое я добра абмацаў вачамі кожнага з іх. Футры іх не падабаліся мне. Пад такімі сабалямі не толькі рэвальвер — кулямёт можна схаваць. Мой напарнік-чырвонагвардзеец спытаў, калі за панамі зачыніліся дзверы:

— Хто гэта?

— Паслы.

— Што ім трэба?

— Чорт іх ведае.

— Можа прыехалі павіншаваць таварыша Леніна з Новым годам?

Я засмяяўся: наіўны хлопец, захацеў ад буржуяў такой далікатнасці!

— Будуць яны табе віншаваць, калі прызнаваць нас не хочуць, рэвалюцыю нашу. Да таго ж па іх календары Новы год мінуў ужо.

— У іх іншы каляндар? Во, праклятыя буржуі! Нават каляндар свой прыдумалі, не такі як у людзей!

На караблі нам тлумачылі розніцу паміж календаром рускім і заходнім, ды я не вельмі тады разабраўся ў гэтай мудрасці — чаму атрымаўся разрыў. Але прачытаў ужо ў савецкіх газетах, што рускае

летазлічэнне адсталае — царкоўнае, не навуковае, што рыхтуецца дэкрэт аб пераходзе на новы каляндар і пачаў, як умеў, тлумачыць гэта свайму сябру-рабочаму.

Для таго ўся гэта навука была адкрыццём Амерыкі. Помню, хлопец здзівіўся:

— Ленін і пра каляндар думае?

— Думае.

— Якую ж галаву трэба мець, каб усё ведаць і пра ўсё клапаціцца.

Паны выйшлі назад не такія паважныя, нават некаторыя футры не зашпілілі, былі ўзбуджаныя, гаманілі гучна, нібы спрачаліся паміж сабой. З камендантам і начальнікам каравула, якія праводзілі іх, не развіталіся.

«Культура!» — плюнуў я ўслед машынам. Спытаў у камандзіра, што гэтым буржуям трэба было?

— Чулі, што румыны акружылі нашы войскі, арыштавалі рэўком фронту, забілі камісара? У адказ на гэта Аенін загадаў арыштаваць і пасадзіць у Петрапаўлаўку румынскага пасла. Дык вось гэтыя прыязджалі прасіць Леніна, каб вызваліў румына.

— А дулю не хацелі? — абурыўся чырвонагвардзеец.— Усіх бы іх, гадаў, пасадзіць! Ведалі б, як страляць у салдат!..

Начальнік каравула засмяяўся:

— Не быць табе, Пятро, дыпламатам. А я хацеў парэкамендаваць цябе паслом у каралеўства дацкае.

Пасля змены я прылёг на падлозе ў каравульным пакоі і задрамаў — намёрзся на пасту.

Разбудзіў крык дзяжурнага: «Трывога!» Што здарылася? Растлумачыў камандзір нашай флоцкай каравульнай каманды: адбылося пакушэнне на таварыша Леніна.

І вось гэтак жа, як тут, на караблі, спыталі тады матросы: «Жывы?» І гэтак жа ўздыхнулі, калі даведаліся, што кулі не кранулі правадыра.

Я адразу падумаў пра паслоў: яны! Сказаў пра гэта сябрам, тыя згадзіліся, што не дарэмна яны прыязджалі ўсёй бандай; папрасіць за румына мог бы прыехаць адзін. Нават пасля таго як даведаліся, што ў машыну стралялі на вуліцы, калі Ленін вяртаўся з мітынгу, я ўсё адно быў перакананы, што такое подлае злачынства рабілася не без удзелу паслоў. Таму і прыехалі: паглядзець на Леніна жывога, бо ведалі, што ў той дзень яго заб'юць.

Каравул паднялі па трывозе, каб узмацніць варту вакол Смольнага і ў самім будынку, бо невядома было, што яшчэ рыхтуюць змоўшчыкі.

Бывае ж шчасце, калі яго зусім не чакаеш. На маю долю выпала самае ганаровае ў тую ноч — тое, пра што я доўга марыў. Мне і майму сябру Амяльяну Гайлаенку камандзір загадаў патруліраваць у калідоры таго крыла, дзе размяшчаўся 81 пакой — кабінет Старшыні Саўнаркома. Каб у выпадку чаго тут жа, уміг, памагчы вартавым, якія стаялі каля кабінета. Больш таго — загадаў: калі Ленін пойдзе да сябе, на кватэру, спусціцца следам за ім і гэтак жа патруліраваць на другім паверсе, правяраць ва ўсіх пропускі.

Як на крыллях, узляцелі мы з сябрам на трэці паверх. І там... разгубіліся. У калідоры, перад пакоямі Саўнаркома, таўпіліся людзі. Многа людзей. Праўда, некаторых з іх мы ведалі ў твар — работнікі наркаматаў. Але ў такім натоўпе і вораг можа схавацца. Як жа нам паводзіць сябе? У каго правяраць пропускі? Нам уяўлялася, што тут пуста, а хто з'явіцца — з таго мы не спусцім вока. Ажно каля кабінета Леніна трохі што не мітынг.

Мы з Амяльянам уціснулся ў гэты натоўп і тут даведаліся падрабязнасці: у машыну стралялі на мосце цераз Фантанку. Побач з Леніным сядзеў швейцарскі камуніст, пасля першага стрэлу ён нахіліў галаву Уладзіміра Ільіча і куля прабіла Платэну палец рукі. На паўвяршка ніжэй... Нехта сказаў пра гэта — і ўсе прыціхлі. А ў мяне халодны пот выступіў. З галавы ўсё яшчэ не выходзілі паслы. Хацеў сказаць пра іх гэтым людзям — не адважыўся: побач стаялі вядомыя бальшавікі, якіх я слухаў на мітынгах.

Падышоў задыханы стары, відаць, бягом узбіраўся па лесвіцы. Спытаў з ходу:

— Дзе Ільіч?

— Вядзе Саўнарком,— адказала жанчына.

— Вядзе Саўнарком? — здзівіўся і ўзрадаваўся, уздыхнуў лёгка, выхапіў з кішэні хустачку, прылажыў да вачэй, пасля ўсміхнуўся ўсім: —Пазнаю, пазнаю. Нішто яго не можа выбіць з каляі. Нішто! Такі Ленін!

Тады і да мяне дайшоў сэнс радасці і гонару старога бальшавіка. Але, такі ён, наш Ленін! Толькі што ў яго стралялі, а ён спакойна кіруе пасяджэннем урада, першага ў свеце ўрада рабочых і сялян.

Падумаў я пра гэта і адразу адчуў упэўненасць, быццам пасля марской качкі ступіў на цвёрдую зямлю. Праўда, трывога, павышаная пільнасць засталіся. Але ворага сярод людзей, што сабраліся перад кабінетам Леніна, я больш не шукаў. Паверыў: не можа яго быць тут.

Не адважыцца такі падлюга падняцца ў баявую рубку. Такія страляюць з-за вугла.

Патроху людзі пачалі разыходзіцца, і наш каравульны абавязак стаў больш пэўны — такі, як мелі яго на ўвазе людзі, што на ўсялякі выпадак узмацнілі ў тую ноч варту.

Саўнарком засядаў позна, гадзін да адзінаццаці. Але і пасля таго, як наркомы разышліся, Ленін доўга яшчэ не выходзіў. Я нават спалохаўся, што прапусціў, як ён выйшаў. Але чырвонагвардзеец, які стаяў каля дзвярэй, на мае запытанне позіркам: «Там?» — гэтак жа без слоў адказаў: «Там».

Не ведаю, чаму, але мне так хацелася ў той вечар сустрэцца з Ільічом, нібы ад сустрэчы той залежала мае жыццё, мой лёс. Я хваляваўся, як дзяўчына: хадзіў па калідоры і не крокі свае чуў, а грукат сэрца.

Ленін выйшаў з кабінета апоўначы з дзвюма жанчынамі. (Пасля я даведаўся: з сястрой Марыяй Ільінічнай і сакратаром, якая вяла пратакол).

Мы чакалі яго, аднак усё адно былі захоплены знянацку.

Ленін ішоў да нас, і мы з Гайдаенкам прыціснуліся да сцен калідора, адзін насупраць аднаго, сталі ва фронт, хоць адчувалі недарэчнасць такога пастраення. Мелі ж загад патруліраваць непрыкметна. І вось на табе!

Уладзімір Ільіч прывітаўся:

— Добры вечар, таварышы, — і раптам спыніўся, агледзеў нас, напэўна, зразумеўшы, з якой прычыны мы стаім, нахмурыўся, спытаў: — Вас паставілі тут?

Я разгубіўся. Што адказаць? Ніякіх інструкцый на гэты конт нам не далі.

Сябра мой Гайдаенка выявіў большы спрыт і знаходлівасць:

— Не, таварыш Ленін. Правяраем каравулы.

— Каравулы на месцы?

— Так точна!

— Можна спакойна спаць? — вочы ў Леніна весела бліснулі: усё разумеючы, ён жартаваў.

— Так точна. Можна.

— Ідзіце спаць, таварышы. Позна ўжо. Добрай ночы,— і працягнуў руку Гайдаенку, пасля — мне.

Тады я падумаў, што Ленін не ваенны чалавек і не ведае, што зняць вартавых мае права толькі начальнік каравула.

Ашаломленыя, мы доўга стаялі моўчкі, і сябра мой гэтак жа, як і я, прыціскаў правую руку да грудзей, пэўна жадаючы зберагчы назаўсёды поціск ленінскай далоні.

Усё гэта я ўспомніў, пакуль гаварыў камісар крэйсера. У вачах маіх стаяў жывы Ленін, усміхаўся, ціснуў руку.

Можа пра тое, што я сустракаўся з правадыром і ў сэрцы жыла цеплыня яго рукі, мне, магчыма, цяжэй, чым іншым матросам, было пагадзіцца з думкай, што Ленін паранены, што жыццё яго пад пагрозай.

Ускалыхнулі камісаравы словы аб тым, што на тэрор белых мы адкажам нашым чырвоным тэрорам супраць контррэвалюцыі.

Калі спыталі, хто хоча сказаць, я першы выйшаў са строю. І сказаў вельмі каротка:

— Таварышы матросы! Прапаную паслаць ад нашага крэйсера каманду для аховы правадыра сусветнай рэвалюцыі таварыша Леніна — Ульянава Уладзіміра Ільіча!

Чатырыста чалавек грымнулі ў адзін голас: — Правільна! Паслаць!

Трохі разгублены ад такой прапановы, камісар паспрабаваў тлумачыць, што ў Леніна ёсць надземная ахова, што пасылку каманды з баявога карабля, калі ніхто яе не просіць і не чакае, у Маскве не зразумеюць. Але камісару не давалі гаварыць.

— Якая там надзейная!

— Пяхтура сонная.

— Наш брат, матрос, грудзьмі загарадзіў бы таварыша Леніна.

— Галасуй, камісар!

— Без галасавання ясна!

— Начальнікам каманды назначыць Данілу Сураўца.

Мяне, значыцца.

Супраць мяне ніхто не запярэчыў. А ўсю каманду доўга падбіралі. Каб паехала дванаццаць самых лепшых, самых адданых рэвалюцыі матросаў, перабралі, можа, сотню прозвішчаў.

Выехаць не проста было. Спрабаваў затрымаць рэўком флоту, нават камісар іх прыехаў на крэйсер, але адступіў перад воляй народа — адзінадушнасцю каманды. Ніякія тлумачэнні яго не памаглі. Спрабаваў прычапіцца да нас камендант Мікалаеўскага вакзала, калі мы садзіліся ў цягнік. Але быў ён з матросаў, і мы пагутарылі з ім па-флоцку. Зразумеў. У дарозе ўсе правяральшчыкі пачціва змаўкалі, калі даведваліся, куды і з якой задачай едуць матросы.

Да Крамлёўскіх варот мы падышлі ў страі, ажно брук гудзеў пад ударамі падкаваных матроскіх ботаў.

Хваляваўся я — на мне ж уся адказнасць. Нават баяўся трохі. Але па наіўнасці сваёй думаў, што без затрымкі парадным крокам уступім мы ў Крэмль і адразу ж станем там галоўнай аховай. В а ўсялякім разе, сустрэнуць нас з радасцю і ўдзячнасцю.

Праўда, перад веліччу Крамля (упершыню ўбачыў яго), перад вышынёй сцяны чырвонай баявы настрой мой упаў. Адчуў я, што не ўсё так проста. Не адны мы, матросы, робім рэвалюцыю, і гатовыя грудзьмі сваімі засланіць правадыра ад варожых куль.

Каманда мая «рассыпала гарох» і збілася ў чараду, калі ў праёме варот з'явілася постаць чырвонагвардзейца. Ён рашуча загароджваў нам дарогу. Я загадаў сваім спыніцца і, усё яшчэ адчуваючы зняважу да пяхоты, якая не здолела ўберагчы Ільіча, рашуча патрабаваў:

— Мядуза, выклікай начальніка каравула.

Мабыць, вартавы здалёк убачыў нас і загадзя паклікаў каго трэба. Не прайшло і дзвюх мінут, як з'явіўся цывільны, у скуранцы, з маўзерам пры баку, а з ім — два чырвонаармейцы.

Я адразу сцяміў, што з гэтым чалавекам трэба гаварыць інакш, чым з вартавым, і адрапартаваў па форме:

— Каманда з крэйсера «Алег» прыбыла для аховы Старшыні Савета Народных Камісараў таварыша Леніна. Камандзір атрада матрос Суравец.

Чалавек ледзь прыкметна ўсміхнуўся і заклапочана пашкроб патыліцу, ссунуўшы скураную фуражку на лоб.

— Давай, таварыш Суравец, сваім арлам «вольна», хай адпачнуць на мурагу ў садзе, а сам хадзем са мной.

Камендант Крамля сустрэў не вельмі прыветліва. Не даслухаўшы рапарту, спытаў хмура:

— Хто паслаў?

— Каманда крэйсера наслала. Як адзін, прагаласавалі.

— А камандзіры што думалі?

— Камандзіры выканалі волю народа.

— Анархісты.

Быццам ударыў ён мяне гэтым словам. Абразіў.

Каб якая-небудзь несвядомая сухапутная халява кінула такое, слова — чорт з ім, можна было б прайсці міма, а гэта ж — адказны таварыш. Такому нельга змаўчаць! Не мог я змаўчаць, не меў права, бо не за сябе абразіўся — за ўвесь рэвалюцыйны флот.

Патрабаваў:

— Вазьмі сваё слова назад! І запомні: каманда «Алега» не анархісты. Не ведаю, дзе ты быў, а мы дваццаць пятага стаялі побач з «Аўрорай» і штурмавалі Зімні. І цяпер не за тоўстымі сценамі сядзім.

Не пакрыўдзіўся камендант. Палагоднеў. Усміхнуўся:

— Добра, бяру свае слова назад,— і тут жа пачаў званіць па тэлефоне,—Уладзімір Дзмітравіч. Атрад матросаў для аховы Ільіча. Але, яшчэ адзін. Трэці.

Пачуў я гэта — і ажно горача мне зрабілася! Крыўдна было, што не адны мы прыехалі, што не мы першыя, і сорамна, што паводзіў сябе так, быццам узнагароды патрабаваў за прыезд. А тут, выходзіць, людзі ўсё ўжо бачылі, для іх гэта звычайная справа.

Сапраўды, не адны мы робім рэвалюцыю — правільна я падумаў перад Крамлёўскай сцяной. Адразу стаў я цішэй вады. Нават камендант убачыў перамену ў маім настроі і суцешыў:

— Нічога, таварыш, не перажывай. Усё прывядзем да ладу.

Трое нас, матроскіх камандзіраў, прыняў кіраўнік справамі Саўнаркома Бонч-Бруевіч. Добра запомніўся мне гэты барадаты мужчына са стомленымі вачамі, інтэлігентны, але просты, з такімі людзьмі прыемна гутарыць.

Ён падзякаваў камандам нашых караблёў за ініцыятыву, у якой так глыбока, так яскрава праявілася любоў матросаў да таварыша Леніна. Ад імя Савецкага ўрада падзякаваў. Але растлумачыў, што цяпер няма патрэбы ва ўмацаванні аховы Крамля. Ахова надзейная. Расказаў, дзе і як быў ранены Уладзімір Ільіч. Падвёў размову да баёў на Волзе, дзе чырвоныя войскі ў адказ на раны правадыра 'з патроенай сілай б'юць контррэвалюцыю. Ідуць баі за родны горад Леніна — Сімбірск. Вось там трэба падмацаванне — вопытныя байцы і камандзіры, асабліва на караблях волжскай флатыліі.

Я адразу сцяміў, што мае на ўвазе Бонч-Бруевіч, і, падняўшыся з крэсла, першы па-вайсковаму абвясціў:

— Каманда з «Алега» гатова сёння ж адбыць на Волгу!

Следам за мной гэта заявілі іншыя камандзіры.

— Дзякую, таварышы. Я раскажу пра вас Уладзіміру Ільічу, як толькі ўрачы дазволяць. Гэта будзе самае гаючае лякарства на яго раны. У Наркомваенморы атрымаеце мандаты і прадукты на дарогу. Я пазваню туды.

Нашу размову часта перапынялі тэлефонныя званкі. Я здзівіўся: на якія толькі пытанні не адказваў кіраўнік справамі! Пра баі на Волзе і пад Архангельскам, пра хлеб і пра нейкія карціны... Але нехта спытаў пра Леніна, і Бонч-Бруевіч ціха пачаў расказваць пра яго стан — якая тэмпература, дыханне, што сказалі дактары.

Калі ён скончыў гэтую размову, я спытаў:

— А дзе ляжыць таварыш Ленін? У бальніцы?

— Не, тут, у сваёй кватэры.

Праводзячы нас, Бонч-Бруевіч прайшоў з намі па вузкім калідоры і спыніўся каля вартавога.

— Вось тут, за гэтымі дзвярамі, дактары змагаюцца за жыццё Уладзіміра Ільіча. Перадайце таварышам на фронце, што Ленін будзе жыць! Яму ўжо лепш.

Стаіўшы дыханне, стаялі мы перад запаветнымі дзвярамі. Доўга стаялі, пакуль дзверы не адчыніліся; выйшла жанчына, прывіталася з Бонч-Бруевічам, а мы зазірнулі туды, унутр ленінскай кватэры, нічога не ўбачылі, але як бы ўдыхнулі тое паветра, якім дыхаў правадыр, якое давала яму жыццё, сілы. Яно і нам дало сілу. На развітанне я сказаў вартавому:

— Глядзі, браток, тут пільна. Помні, каго захоўваеш.

Цераз тры дні каманды нашы былі ўжо ў Казані.

Мы сядзелі ў кабінеце старшыні калгаса. Занатоўваў я нямногае з таго, што расказваў Даніла Іванавіч. Больш глядзеў на яго, вывучаў твар, запамінаў жэсты, міміку. Самае дзіўнае, што мне ніяк не ўдавалася, як не напружваў я фантазію, уявіць таго маладога, рашучага бравага матроса, які камандаваў атрадам. Той уяўляўся высокім, шыракаплечым — асілкам! А сядзеў перада мной, цераз стол, нізенькі, хударлявы стары з пракуранымі і абкусанымі рудаватымі вусікамі, з беленькім пухам на галаве, як у малога, якога ні разу яшчэ не стрыглі. Праўда, па руках, па вачах і па тым, як ён расказваў — паслядоўна, звязна і коратка, без старэчай мнагаслоўнасці,-— адчувалася, што дзядуля гэты даволі дзябёлы яшчэ і энергічны. Ды пра гэта мне сказалі раней. Яшчэ ў пісьме паведамляў мой пляменнік-аграном, ён прыехаў сюды на працу і «адкрыў» чалавека, які, на яго думку, павінен быў абавязкова зацікавіць дзядзьку-пісьменніка. Магчыма, што ўявіць Сураўца баявым матросам перашкаджала яшчэ адна акалічнасць — яго трохі не паўстагадовая вельмі ж мірная прафесія: фельчар!

Глядзеў я на яго і думаў: чаму пасля такой бурнай і багатай маладосці чалавек абраў такую ціхую прафесію?

Даніла Іванавіч як бы прачытаў мае думкі. Усміхнуўся.

— Пра ўсе мае паходы расказваць — доўгая песня. А ў мяне яшчэ два візіты — у Селішча і ў Дунайку. А Кузьміч чалавек скупы, транспарт медыкам шкадуе.

Старшыня адчуваў сябе ад такой крытыкі няёмка. Пачырванеў, пачаў абараняцца:

— Даніла Іванавіч. Каго, каго, а вас...

— Маўчу, маўчу. Не крыўдзілі, не крыўдзілі... Гэта я так...

Ен хуценька падхапіўся, узяў пад сталом свой старамодны пацёрты чамаданчык.

— Калі яшчэ што цікавіць — прашу ўвечары да мяне.

Старшыня паказаў сваю шчодрасць:

— Даніла Іванавіч, бярыце мой газік. Скажыце Васю, што ён паступае ў ваша распараджэнне.

У старога твар зрабіўся хітрэнны і такі гарэзлівы, што я трохі не зарагатаў. Але ён і гэта зразумеў: чмыхнуўшы ў вусы, з вельмі сур'ёзным выглядам запрасіў мяне[1]:'

— Часцей прыязджайце да нас, таварыш пісьменнік. А то я колькі пражыў на белым свеце, а жывога пісьменніка бачу першы раз.

ГІляснуў матрос і па нашым браце.

— Чорт, а не дзед,— пакруціў галавой старшыня, калі Даніла Іванавіч борздзенька шмыгнуў за дзверы, як бы спалохаўшыся, што газік уцячэ без яго.

Пляменнік мой, аграном, задаволена засмяяўся.

— Хіба няпраўду я пісаў, што дзед — знаходка?

— Чаму ён выбраў такую прафе'сію?

— Кажа, у дзевятнаццатым яго моцна параніла, і ён доўга ляжаў у шпіталі, цэлы год. Там, кажа, і вырашыў прысвяціць жыццё сваё лячэнню людзей. Такая метамарфоза адбылася з чалавекам! Вярнуўся дадому, кончыў у Магілёве курсы — і вось ужо гадоў сорак шэсць — так? — лечыць землякоў. На восем,, вёсак адзін лекар быў. Усё ўмеў: роды прыняць, зуб вырваць. Гэта яму зімой цяжкавата дабірацца ў Дунайку ці ў Закінь. А ўлетку садзіцца на мотапед і —толькі пыл трубой. Калі ў нас урачэбны пункт зрабілі, маладая доктарка хацела Данілу на пенсію паслаць, дык бабы цэлы бунт паднялі, да райкома дайшлі. Пасля таго паспрабуй сказаць яму пра пенсію. Ідзіце, кажа, з народам гаварыце. Як народ пажадаб. Дзівачыцца дзед. Нялёгка бывае з ім. Кожны тыдзень падкідае нам санітарныя праекты,— старшыня калгаса выказваў і захапленне старым і адначасова скардзіўся на яго дзівацтвы.

Малады аграном ад задавальнення ажно тупаў нагамі, добра, што абуты быў у валёнкі і не грукаў, патрабаваў ад мяне прызнання яго заслугі:

— А вы, дзядзька, не хацелі ехаць. Я вам залатую жылу адкрыў. Раман можна напісаць.

Я таксама думаў пра гэта: «Колькі цікавых людзей на нашай зямлі! Увечары распытаю ў Данілы Іванавіча пра ўсе яго паходы і пра ўсё жыццё».

## ХЛЕБ

Дзядзьку Івана, матчынага брата, чакалі доўга і нецярпліва. Дзядзька меўся прывезці хлеб. Многа хлеба — колькі можа панесці адзін чалавек.

Мне ішоў сёмы год, але я ведала, што дарослы чалавек, ды яшчэ той, што жыве ў вёсцы, дзе хлеба штодня ядуць колькі хочаш, можа панесці цэлы вялікі мяшок.

Я хварэла; знясіленая, многа спала і часта сніла хлеб — цэлыя горы мяшкоў з мукой ці боханаў. Ад мяшкоў не прачыналася, бо яны не пахлі, а боханы, круглыя, з падсмажанай скарыначкай, так смачна пахлі, што ў сне пачынала гнаць сліну. Я каўтала яе і прачыналася ад спазмаў, ад болю ў жываце.

Добра, калі дома быў Васіль, брат мой. Васіль дарослы ўжо быў, яму ішоў дванаццаты год. Ён усё ведаў і ўсё ўмеў. Пры ім заўсёды гарэў хоць невялікі агеньчык у «буржуйцы», і я ляжала ў цяпле, бо канапка падсоўвалася да самай печкі. Я магла высунуць з-пад коўдры рукі і гуляць са старой лялькай і бліскучымі гільзамі.

Вася нікому не казаў, дзе, якім чынам ён здабываў дровы. Ён хадзіў па іх або позна ўвечары, або раніцой, на досвітку. Але маці здагадвалася, як ён робіць гэта, адкуль бяруцца струхлелыя дошкі, цешылася сынам і баялася за яго.

— Заб'юць цябе, бандзіта, калі-небудзь,— з ласкавым дакорам казала яна.— Тыя, што дамы свае маюць — звяры, за трэску чалавека забіць могуць.

Мне рабілася страшна, калі Вася ішоў з дому. Уяўлялася, што яго забіваюць, і я, адна, плакала і рыхтавалася паміраць, бо ведала, што без Васі мне доўга не пражыць. Хіба можна вылежаць цэлы дзень без Васі, без хлеба і без агню, без цяпла? А з братам хораша. Паліцца ў чыгуннай печцы, і заўсёды стаіць на ёй чайнік з цёплай вадой. Калі я прачыналася, кашляла і курчылася ад болю ў жываце, Вася даваў мне напіцца і часам у конаўку кідаў крупінкі сахарыну (адкуль ён браў сахарын — таксама невядома), і вада рабілася салодкай; калі яе нап'ешся, жывот пераставаў балець. Але самыя шчаслівыя хвілінкі былі тыя, калі Вася варыў суп і мы абедалі. Гэта не тое, што сняданак, калі маці, спяшаючыся на завод, давала нам па конаўцы вару з сахарынам і па кавалачку чорнага, як вугаль, хлеба, кавалачак гэты з мой худзенькі пальчык, трэцяя частка пайкі.

Вася абед гатаваў па-сапраўднаму. У яго заўсёды знаходзіўся запас дроў, і ён распальваў «буржуйку» так, што чырванела бляшаная труба. Яна была выведзена ў акно, якое напалавіну — па сярэднія

шыбы — забіта старым лямцам, а тая шыба, дзе выходзіла на двор труба,— бляхай іржавай.

Да тае паўлыжкі пшана, якое пакідала нам маці для супу, у Васі знаходзілася ў доўгім бацькавым паліто, у глыбокай кішэні, бульбіна, маркоўка ці рэпка: Ён казаў, што зарабляе гэтыя скарбы на станцыі, памагаючы разгружаць вагоны. Пра іх маці не заўсёды нават ведала, гэта была наша з ім тайна. Весела трашчалі дровы, печка давала прыемнае цяпло. Весела булькала вада ў пачарнелым салдацкім кацялку. І я весялела.

— А я зноў сніла хлеб. Многа-многа хлеба,— можа, з удзячнасці брату пачынала расказваць я.— Яго везлі на вялікіх санях — цэлую гару вось такіх боханаў,— і шырока разводзіла рукамі.

Калі я расказвала такія сны маці, тая каўтала слёзы і тайком выцірала вочы. А Вася смяяўся.

— Ну і дурная ж ты, Анечка. Ты не думай пра хлеб, як я. І ён не будзе сніцца.

Але хіба можна не думаць пра хлеб? Можа, тыя, хто мае яго досыць, не думаюць, а я ўвесь час думаю.

Калі Васіль сыпаў у кацялок пшано і кідаў дробненька парэзаную бульбіну, пара пачынала так смачна пахнуць, што я не паспявала каўтаць слінкі.

І хлеба на абед большы кавалачак — палавіна пайкі. Мама ніколі не зачыняла хлеба, бо ведала, што ніхто з нас — ні Вася, ні я — не з'ямо больш, чым нам належала, не можам з'есці — голад навучыў суровай дысцыпліне. Часам Вася прапаноўваў:

— Хочаш, я табе адламаю трошачкі ад сваёй скібачкі?

Мне страшна хацелася з'есці лішні кавалачак, але я адмаўлялася:

— Не, не, я не хачу. Я ўжо наелася.

Я помніла размову, якую аднойчы падслухала раніцой, калі мама збіралася на працу. Вася, як дарослы, сказаў ёй:

— Мама, я даўно бачу твае хітрыкі. Як ты дзеліш хлеб? Каб сабе менш, а нам больш. Так нельга, мама, ты працуеш. Табе трэба сілы. Калі ты захварэеш, без цябе і мы не пражывём. З сённяшняга дня я буду дзяліць хлеб. Па справядлівасці. Во так. Табе — рабочая норма.

Маці заплакала. Раней маці была вясёлая, але з надыходам тае цяжкой зімы ўсё больш і больш худнеў і чарнеў яе твар, шырэйшымі рабіліся вочы, і нават я, малая, бачыла ў іх смутак, гора. І тады мне таксама хацелася плакаць. Твар матчын адразу пасвятлеў і загарэліся вочы, калі прыйшло пісьмо ад братоў яе з вёскі. Яна спачатку прачытала сама, па складах, водзячы па паперы пальцам. І, не скончыўшы чытаць, абвясціла нам:

— Дзядзька Іван прывязе мукі. Тры пуды мукі! Гэта ж мяшок. Перазімуем, дзетачкі! Ачуняеш, Анечка! — і кінулася да мяне, пацалавала. А пасля пісьмо чытаў Вася. Ён добра чытаў, бо дзвеі зімы хадзіў у школу. Я штодня прасіла брата прачытаць гэтае пісьмо. Даўно вывучыла на памяць, ведала ўсіх цётак, дзядзькоў, бабуль, сясцёр і братоў, стрыечных і ўсялякіх іншых, якіх ніколі не бачыла, ведала, хто які паклон шле — нізкі ці ніжэйшы. Аднак не гэта мяне цікавіла. З душэўным трапятаннем чакала я слоў «і рашыла ўся радня наша, дарагая сястра, сабраць і завезці тваім дзеткам тры пуды мукі ды паўпуда круп розных».

Два тыдні чыталі пісьмо. Два тыдні жылі надзеяй.

Дзядзька Іван прыехаў увечары, калі ўсе былі дома і Вася толькі што прынёс дровы, выслухаў матчыны папрокі і запальваў «буржуйку», каб трохі нагрэць на ноч пакойчык. За акном злосна скавытаў марозны вецер. Я баялася ветру; калі ён вось так пачынаў галасіць і ляпаць бляхай на суседнім даху, у нас рабілася вельмі холадна, а печка пачынала дыміць, дым еў вочы і раздзіраў грудзі, кашаль аддаваўся болем ва ўсім целе.

Дзядзька нядобра пастукаў у дзверы — загрукаў не як жаданы госць, а як узлаваны сусед. Маці адчыніла і, убачыўшы брата, не кінулася да яго — адступіла і няўцямна глядзела, як на чужога прышэльца. Мы з Васем глядзелі гэтак жа моўчкі, не разумеючы, што адбылося. Дзядзька быў з пустымі рукамі, з адной маленькая торбачкай.

Нейкі момант я чакала, што нехта іншы, як добры казачны чарадзей, з-за дзядзькавай спіны ўкіне ў пакой той мяшок, які сніла я, бачыла ў яве кожны раз, калі думала пра хлеб.

Дзядзька агледзеў наш бедны пакойчык, «буржуйку», якая такі дыміла — дровы, як на бяду, не разгараліся, кінуў позірк на мяне, захутаную, пасінелую ад голаду і холаду, і раптам сарваў з галавы кудлатую авечую шапку, выцер ёй вочы і шыбнуў на падлогу. Прахрыпеў:

— Няма хлеба. Няма. Адабралі. Заградыікі. Прасіў. Маліў. Даведку з воласці паказваў, што свой хлеб, галодным пляменнікам вязу. Куды там! Слухаць не захацелі. Спекулянт, кажуць... Гадаўё! Зладзеі! Галадранцы! Усю Расею разарылі. Да голаду давялі... Каб вам есці — не наесціся ніколі гэтым хлебам!

Пакрыўджаны мужык — страшны ў гневе. За хлеб можа бога і бацьку роднага праклясці. Дзядзька так разышоўся, што лаяўся самымі брыдкімі словамі, не звяртаючы ўвагі на нас, малых.

Маці спачатку слухала, анямелая, ашаломленая, і галавой так ківала, быццам згаджалася і пацвярджала. А потым схамянулася і на дзядзьку закрычала:

— Ты чаго гэта пры дзецях размацюкаўся? Бога пабойся. За пуд хлеба людзей праклінаеш.

— Не пуд, а тры.

— Хіба ж яны, заграднікі, для сябе яго забралі?

— А для каго ж?

— Для бацькі іх,— паказала маці на нас,— каторы буржуяў б'е. Для рабочых галодных...

— Пабачу, як ты накорміш іх тым хлебам. Колькі яны табе дадуць яго...

— Васьмушку дадуць! Васьмушку! — у роспачы, у злосці закрычала маці, падбегла да шафчыка, што вісеў на сцяне, выхапіла з яго пайку на заўтрашні дзень на траіх нас — скібачку з маю далоню.— Во колькі дадуць! Во! Але даюць! А буржуі ды спекулянты, каб сумелі, то даўно б нас голадам задушылі. А вы там... морды наелі, хлеб у зямлю пазакопвалі і казанскімі сіратамі прыкідваецеся. Рабочая ўласць вам не па нутру! Каго ты праклінаеш? Каго? Падумай! Сын жа твой таксама ў Чырвонай Арміі.

— Мой ды твой на фронце, па вагонах мяшкі не трусяць,— агрызнууся дзядзька, але мякчэй ужо — зразумеў, што глупства нагарадзіў. Шапку падняў з падлогі, на падаконнік паклаў, па-мірнаму сказаў:

— Ды крыўдна ж, сястра. Для галодных дзяцей вёз. Для тваіх жа. Не дзеля нажывы...

— Некаму трэба і мяшкі трэсці,— не сунімалася маці.—Не было б заградатрадаў — хто вазіў бы хлеб у Маскву? Думаеш, рабочы? Спекулянты ўсё захапілі б. А гэта ж буржуі недабітыя. А ў каго хлеб — у таго і ўласць. Дык ты хочаш, каб зноў фабрыканты ды купцы хамут на нас надзелі? Не, не дапусцім. Паслухай ідзі, што рабочыя кажуць. Галадаць будзем, але кланяцца ў ногі пузатаму Калашнікаву не пойдзем!

Ніколі не бачылі мы маці такой — вочы гарэлі, кулак! сціснуты, і ўсю яе ажно трасло. І слоў такіх не чулі.

Ад Васі я чула іх, бо Вася не прапускаў ніводнага мітынгу. Вася нават Леніна слухаў, улетку, да таго яшчэ, як у Леніна стралялі. А маці і на мітынгах не часта затрымлівалася, бо трэба было даглядаць мяне, хворую.

Дзядзька Іван, відаць, таксама ніколі не бачыў сваю сястру такой угневанай і смелай. А каб баба такія вучоныя бальшавіцкія

словы гаварыла, то пра гэта ён, мужык, і не сніў, бо ў сяле яшчэ такога не было. Дзядзька апраўдвацца пачаў:

— Ды мы што... проціў уласці хіба?.. Саветы зямлю далі. Але ж хіба парадак гэта — хлеб адбіраць? Хто яго вырасціў? Каму яго вязуць? Ты разбярыся... разбярыся, кажу я, таварыш начальнік. Бо калі ты ад рабочай уласці, то абыходзься са мной як са сваім таварышам, бо што Ленін абвясціў? Саюз рабочых і сялян. А ён мне, заграднік гэты: змоўкні, кажа, контра, спекулянт! Па мордзе, кажа, відна, што сала жарэш кожны дзень. А хіба я вінаваты, што яна чырвоная ў мяне, морда?

Пэўна разгубленасць дзядзькава і што апраўдвацца стаў (а нораў у яго, казала маці, круты быў і гонару мужыцкага нямала меў) неяк адразу змянілі матчын настрой. Уміг з незалежнай работніцы стала яна спакутаванай бабай, учарашняй сялянкай, якая і пасля замуства дрыжала перад старэйшымі братамі — гаспадарамі.

Дзядзька спалохаўся матчынай смеласці, а маці — сваёй уласнай. Сумелася, сцялася. Прабачэння ў брата папрасіла, што страчае яго так.

— І пачаставаць цябе, браточак, няма чым, — заплакала, сардэчна прызналася: — Мы хлеба вашага, як бога, чакалі. Паглядзі на Анечку: што свечачка растае. Баюся, не дацягне да вясны, дзіцятка мае.

У дзядзькі пачастунак знайшоўся, не ўсё забралі атраднікі. З торбы ляглі на стол баханка хлеба і кавалак сала. Які гэта быў смачны хлеб? З чыстай мукі. Мне далі ў той зімовы вечар вялікі акраец, можа, не менш, як тры нашы пайкі. Дзядзька гэтулькі адрэзаў. З якой асалодай ела я той хлеб! Цяпер, у багацці, у заможнасці, успомню — і пасля любых страў, пасля любых булак, самага святочнага абеду, хочацца мне з'есці акраец такога хлеба. Уначы мне не спалася, хоць і сыта павячэрала, і я чула размову маці з дзядзькам.

Зусім ужо нясмела, пашаптам, маці пыталася:

— Што ж мне рабіць, браток? Як перазімаваць з дзецьмі?

Маці пасля казала, што хацела, каб дзядзька Іван забраў мяне ў сяло, але дзядзька, можа, таму, што не параіўся са сваімі ці па іншай прычыне, не здагадваўся пра сестрыно жаданне.

Ён доўга маўчаў, толькі ўздыхаў і шкроб галаву — у начной цішыні чуваць быў кожны рух. Адказаў:

— Каб як правезці, то сабралі б табе яшчэ трохі, хоць і ў саміх не багата, развёрстка, ведаеш, якая.

Маці доўга маўчала, думала. І раптам зашаптала зноў з дзіўнай рашучасцю:

— Я правязу хлеб! Я да таварыша Леніна пайду, каб дазволіў!

Дзядзька хмыкнуў.

— Ха, куды заехала бабскім розумам! Да Леніна! Думает, так цябе і пусцяць да яго? Да яго дабрацца, можа, як да цара было раней. Па году чакалі і з «такам» вярталіся.

— Не! — запярэчыла маці.— Ленін на заводах выступае, перад рабочымі.

Дзядзька яшчэ нейкі час па-рознаму выказваў сялянскае нявер'е ў існаванні справядлівасці на свеце. Але я заснула. І зноў бачыла сон, зноў сніла хлеб, але зусім інакш ужо. З газетнага партрэта, які Вася прыклеіў на сцяне над маёй канапкай, сышоў жывы Ленін. Адчыніў наш шафчык, які раптам зрабіўся можа ў сто разоў большы — вялікія паліцы на ўсю сцяну, і на паліцах ляжаў хлеб — духмяныя свежыя з залатой скарынкай баханкі. Ленін узяў адну баханку, адрэзаў акраец і падаў мне. Я адкусіла і зноў адчула той непаўторны, незабыўны смак, можа, таму і захаваўся ён у мяне на ўсё жыццё.

Да Крамля маці ішла рашуча, бо за бяссонную ноч настроіла сябе, што абавязкова пройдзе да Леніна. «Тры дні буду стаяць перад дзвярамі, а прайду»,— сказала яна дзядзьку, які пасміхаўся ў вусы і ў бараду сваю кудлатую, гледзячы на сястру ў святочным убранні: маці надзела плацце, якое некалі яшчэ да вайны падарыў ёй бацька і якое на маёй дзіцячай памяці яна ніколі не надзявала — не! да пагулянак было ў той суровы час, і кашаміравую хустку, якую часам абпінала мне і абяцала падарыць, калі я вырасту.

Але перад велічнай сцяной Крамлёўскай, перад вежай з залатым купалам і арлом і залатымі стрэлкамі на вялізным гадзінніку знікла матчына рашучасць і ўпэўнёнасць. Збянтэжанасць і страх апанавалі. Прыгадала братава нявер'е, яго сялянскія насмешкі: «Ідзі, ідзі, так цябе там і чакаюць. Дурная ты, Аксіння. Бабой ў цябе розум, хоць і гарадская ты». І ўласныя начныя сумненні ажылі зноў: «У Леніна вунь які клопат на плячах — уся дзяржава расейская; у яго ворагі з рэвальвераў страляюць, а я буду турбаваць з-за пуда мукі. Быццам адны мае дзеці галодныя».

Доўга з такімі вось думкамі хадзіла маці па плошчы, па якой марозны вецер гнаў калючы снег, па

Аляксандраўскім парку. Адважылася спытаць у аднаго чалавека, як прайсці да таварыша Леніна. І той проста і ветліва, нібы гэта было яго штодзённым абавязкам, паказаў на Троіцкія вароты, і нават правёў колькі крокаў, каб відаць былі тыя вароты, праз якія трэба зайсці, каб трапіць да Старшыні Саўнаркома. Маці падзякавала, і ён адказаў:

— Калі ласка, таварыш.

Вельмі падабалася гэта маці — прастата такая, і слова дарагое «таварыш». Узрадаваная, упэўненая, што няма на шляху больш ніякіх перашкод, смела пайшла яна да таго праезда запаветнага. Увайшла пад арку сцяны. Ды раптам спыніў малады голас:

— Вы да каго, грамадзянка? Ваш пропуск.

Маці застыла на месцы, азірнулася. Збоку, за маленькім столікам, на якім ляжала разгорнутая кніга, сядзеў чырвонаармеец у зімовай шапцы з чырвонай зоркай, у шынялі, на папрузе — жоўтая кабура.

Маці адразу не разгубілася і смела адказала:

— Мне — да таварыша Леніна.

Чырвонаармеец нібы трохі здзівіўся — брывамі гэтак здзіўлена павёў — і падняўся з табурэціка, як бы з-за павагі да такой паважнай наведвальніцы, якая ідзе да самога Леніна.

— Вас выклікалі?

— Не...— тут маці трохі сумелася.— Мне трэба... пагаварыць...

— Пагаварыць? — ужо зусім яўна здзівіўся чырвонаармеец.— Пра што?

— Пра жыццё— маці пасля ўвесь час здзіўлялася, як нечакана для самае сябе сказала яна гэта — што ёй трэба пагаварыць з Леніным пра жыццё.

Вартавы ажно лёгенька свіснуў ад такога адказу. Быў ён хлопец малады, гадоў дваццаць, не больш, з простым добрым сялянскім тварам і, безумоўна, як многія ў яго ўзросце ў той час, цікаўны і гаваркі. Пачаў ушчуваць наведвальніцу:

— Што гэта ты сабе, таварыш жанчына, у галаву ўцямяшыла? Думаеш, у таварыша Леніна больш спраў няма, як гутарыць з табой? Ды ты ведаеш, колькі ў яго работы? Начамі праседжвае. Хіба жартачкі кіраваць такой краінай? Разруха, голад, буржуазія з усіх бакоў лезе, як саранча, пажар рэвалюцыі патушыць хоча...

А мы павінны раздзьмуць яго ва ўсім свеце. І таварыш Ленін кіруе ўсім пралетарыятам у Еўропе і ў Амерыцы...

Хлопец выказваў, хіба толькі іншымі словамі, бо быў ён больш адукаваны і дасведчаны, тыя ж сумненні, якія апанавалі маці перад Крамлёўскай сцяной. Маці адчула, што рушыцца яе надзея, якая ўспыхнула пасля размовы з чалавекам, што так проста паказаў, як прайсці да Леніна. Уявіла, як вернецца яна дадому ні з чым, убачыць мае галодныя вачаняты (маці раней неяк прасіла: «Анечка, не глядзі ты на мяне так»), як будзе зларадні́чаць брат Іван, бо хоць і добры ён, але не праміне сазларадні́чаць, што яго праўда, а не яе,— і вочы яе набрынялі слязамі.

Выцерла слёзы ражком хусткі і папрасіла зусім пабабску, папростаму:

— Салдацік даражэнькі, прапусці ты мяне. Мне вельмі трэба... просьбу маю вялікую... Бяда ў мяне.

Вартавы адказаў павучальна-строга:

— Салдацікаў, мамаша, больш няма, ёсць чырвонаармейцы,— і адразу сур'ёзны зрабіўся, задумаўся. У маці ёкнула сэрца — не пусціць, абразіўся. Але хлопец падышоў да тэлефона, што вісеў на сцяне каля дзвярэй, і пачаў круціць ручку.

Маці стаяла з заміраючым сэрцам — ад боязі і надзеі — і не вельмі нават зразумела сэнс слоў, якія казаў у трубку вартавы.

Хутка з'явіўся чалавек у скураной тужурцы, падобны на рабочага. Ён спытаў, ці ёсць у маці які-небудзь дакумент.

У яе быў пропуск на завод. Чалавеку — па выразу твару яго маці ўбачыла — спадабалася, што яна работніца ды яшчэ такога завода — патроннага. Ён ласкава кіўнуў маці галавой і сказаў:

— Хадземце са мной, таварыш.

У светлым пакоі за пісьмовым сталом, на якім ляжалі стусы папер, сядзела маладая жанчына, адзетая проста, але прыгожа — чорная спадніца, белая кофтачка, на плячах пухавая хустка. Па вобліку і ўбранні яна нагадала маме настаўніцу, якая некалі ўпрасіла матчыных бацькоў аддаць дзяўчынку ў школу і дзве зімы вучыла; маці часта ўспамінала тую народніцу, што па добрай волі прыехала ў іх глухую вёску, і вельмі хацела, каб я, калі вырасту, вывучылася на настаўніцу.

Чалавек у тужурцы сказаў жанчыне:

— Лідзія Аляксандраўна, таварыш просіцца на прыём да Уладзіміра Ільіча. Пагаварыце.

Сакратар ветліва запрасіла маці сядаць і гэтак жа ветліва папрасіла:

— Раскажыце, калі ласка, якая ў вас справа. Можа, яе можна вырашыць без старшыні Саўнаркома?

Магчыма таму, што сакратар Леніна нагадвала настаўніцу, маці проста і даверліва, як жанчына жанчыне, расказала ёй пра сваё жыццё, пра спадзяванне на хлеб ад братоў, пра мяне, хворую.

Лідзія Аляксандраўна выслухала ўважліва і загасала толькі прозвішча ды імя. Сказала:

— Пачакайце, таварыш. Я скажу Уладзіміру Ільічу пра вашу просьбу.

Паднялася і пайшла да дзвярэй напроціў. Зніклаза імі. І тады маці зразумела, што сакратар пайшла да Леніна, што Ленін тут, за дзвярамі — так блізка, і — можа здарыцца, што яе хутка паклічуць да

яго. Надумала пра гэта і адчула страх. А тут яшчэ выявіла, што не адна ў пакоі, што ў розных кутках сядзяць чалавекі чатыры. Чакаюць. Адкуль яны ўзяліся? Калі зайшла сюды, нікога ж, акрамя гэтай добрай жанчыны, не ўбачыла. Значыцца, яны чулі ўсё, што яна расказвала? Маці чамусьці здалося ганебным для сябе, што чужыя людзі чулі яе скаргу. Асабліва не спадабаліся ёй двое, падобныя на буржуяў, адзетыя ў чорныя суртукі, белыя манішкі, у аднаго залатыя акуляры на носе. Здалося, што яны нядобра разглядаюць яе, залішне пільна, бессаромна. Маці не ведала, куды дзяваць вочы, рукі. А калі тыя загаварылі паміж сабой не па-руску, то наша занадта ўражлівая матуля чуць не самлела, бо падумала, што зрабіла злачынства, расказаўшы пры чужынцах усю праўду пра хлеб. Добра, калі яны не разумеюць па-руску. Дык напэўна ж разумеюць, то навошта ж, каб яны пачулі з яе вуснаў, як цяжка жывецца пралетарыям рускім?

Падумала: «Навошта Ленін пускае да сябе такіх? Можа, у іх бомба ў тоўстым партфелі?»

Пакуль чакала з такімі думкамі, у яе пахаладзелі рукі і ногі. Кружылася галава. Маці баялася, што зваліцца з крэсла, бо сядзела на самым краёчку, але больш глыбока, зручна сесці не адважвалася. А тыя двое тарашчылі на яе вочы і ўсё лапаталі. Каб можна было знікнуць, уцячы, хоць праз падлогу праваліцца — маці з задавальненнем зрабіла б гэта, але яна адчувала, што не хопіць сіл скрануцца з месца.

Ды, на шчасце, з дзвярэй, з якіх яна не зводзіла вачэй, выйшла Лідзія Аляксандраўна. І тут жа звярнулася да чужаземцаў:

— Таварыш...— і назвала прозвішча, але маці не запомніла яго і пасля, расказваючы, дакарала сябе, што была такая бяспамятная,— Уладзімір Ільіч просіць прабачыць і крышку пачакаць.

І адзін з тых, каго маці палічыла за буржуяў чужаземных, адказаў чыста па-руску, ветліва і хораша, з добрай усмешкай. У маці трохі адлягло на сэрцы, цяпер яна з цікавасцю глядзела на яго, думала: «Бач, убраўся, як жаніх». Можа праз гэтую ўвагу да «буржуяў» не адразу ўцяміла, каго сакратар запрашае прайсці ў тыя дзверы, каля якіх стаяла, няшчыльна прычыніўшы іх.

— Заходзьце, таварыш. Уладзімір Ільіч чакае вас, — сказала Лідзія Аляксандраўна.

Маці пашукала вачамі, хто ж падымецца.

— Вы, вы, таварыш Кузьмянкова.

— Я? — у мамы заняло дыханне, яна адчула, што нестае сіл, каб узняцца з крэсла.

Лідзія Аляксандраўна падышла, дакранулася рукой да яе пляча і дотыкам гэтым памагла: не здымаючы рукі з пляча, правяла ашаломленую, узрадаваную і спалоханую работніцу да дзвярэй, адчыніла іх.

І... маці ўбачыла Леніна. Твар такі ж, як на партрэтах. А вось постаць — ніжэйшая, меншая, чым яна ўяўляла, бо ўяўляўся ёй Ленін асілкам, як Ілья Мурамец. А ўзняўся з-за пісьмовага стала звычайны чалавек сярэдняга росту.

Ленін выйшаў з-за стала, пайшоў да наведвальніцы і прывітаўся за руку:

— Добры дзень, таварыш.

Маці запомніла, што паціснула руку Уладзіміру Ільічу моцна, памужчынску, па-рабочаму. А калі Ленін запрасіў яе сядаць і сам сеў напроціў, за адзін крок, у мяккае крэсла, абапёрся локцем на падлакотнік, падпёр пальцамі шчаку,— нарыхтаваўся слухаць, на маці, як яна казала, нібы зацямненне нейкае найшло; горача зрабілася, пот на лбе выступіў. Яна выцерла пот кашаміравай хусткай, хоць ніколі раней гэтага не зрабіла б — так ашчаджала тую хустку, для мяне берагла, і моўчкі глядзела на Леніна, на яго шырокі лоб, у карыя прыжмураныя вочы, на трохі рудаватую бародку, якую ён з правага боку скамечыў пальцамі. Маці расказвала: яна ясна разумела, як дорага Леніну кожная хвіліна, колькі ў яго дзяржаўных спраў, што яна не мае права сваёй бядой надоўга затрымліваць яго ўвагу, не для таго, каб разглядваць, прыйшла сюды і ўсё адно ніяк не магла пачаць гаварыць, быццам язык ёй адняло.

Уладзімір Ільіч, напэўна, добра зразумеў яе стан і ласкав а спытаў:

— Як ваша імя?

— Аксіння.

— А па бацьку?

— Ой, ніхто мяне па бацьку не зваў. Ерафей бацька наш.

— Вы работніца, Аксіння Ерафееўна?

— На патронным заводзе раблю...

— Вельмі важны завод. Патроны нам цяпер патрэбны, як хлеб.

Ленін сам першы сказаў пра хле(б, і гэта неяк адраЗу супакоіла маці, надало смеласці.

Яна падумала: чалавек, што мае такую сілу, што зрабіў такі пераварот — прагнаў паноў, буржуяў, кіруе вялізнай дзяржавай,— ён усё ведае і разумее, яму можна расказаць пра ўсё гэтак жа проста, як гаворыць ён. І маці сказала:

— Прасіць аб хлебе я прыйшла да вас, таварыш Ленін. Памажыце.

Уладзімір Ільіч на міг апусціў вочы, на лбе ў яго сабраліся ў адзін пучок зморшчыкі. Маці здалося, што правадыра агарнуў смутак. Яна разумела прычыну гэтага смутку: балюча яму, што ён не( можа ўсім даць хлеба, як балюча бывае ёй, калі няма чым накарміць дзяцей. Але Ленін тут жа ўзняў вочы, у іх не было смутку, болю, у іх гарэў агонь рашучасці.

Ленін пачаў гаварыць ціха, даверліва, не як з наведвальніцай, якая прыйшла з просьбай, а як з сябрам, ад гэтага словы яго набывалі надзвычайную пераконанасць. Маці слухала зачараваная і ўсё разумела — так проста. Пасля яна бедавала, што не здолела запомніць дакладна ленінскіх слоў, але змест добра помніла. Ільіч гаварыў, што мы маем вялізарную рэвалюцыйную энергію мае, але ў нас мала хлеба, і буржуазія спадзяецца задушыць пралетарыят касцлявай рукой голаду. І што толькі жалезная дысцыпліна, толькі харчовая дыктатура, класавы паёк, цвёрдая прадразвёрстка, добра наладжаная работа заградатрадаў можа ўратаваць Маскву, Петраград, армію ад голаду.

— Паёк бедны, гэта так, але мы не дамо, каб рабочыя, іх дзеці паміралі з голаду. А разаб'ём буржуазно — будзе ў нас хлеб. Многа хлеба. Расія — краіна хлебная. Усё будзе(. Дзецям ужо цяпер, нягледзячы на нашу беднасць, мы ўводзім бясплатнае харчаванне.— І нечакана пасля гэтых слоў Ленін спытаў: — Заградатрад адабраў у вас хлеб? Так?

Лідзія Аляксандраўна, безумоўна, далажыла Леніну, з якой просьбай прыйшла работніца, але, відаць, сказала ў агульных рысах, звярнуўшы ўвагу на галоўнае — на адабранне хлеба, бо ў той час скарг такіх паступала нямала. Маці спалохалася, што Ленін можа падумаць, што яна прыйшла скардзіцца на атрад, і пачала спешліва, збіваючыся, глытаючы словы, расказваць усё па парадку.

Уладзімір Ільіч выслухаў уважліва, не перапыняючы, толькі позу змяніў, паклаў нагу на нагу, абхапіў калена рукамі, нахіліўся наперад, а галаву схіліў трошкі набок.

Калі маці сказала, што хлеб братаў падтрымае хворую дачку, а так яна баіцца, што памрэ малая, Уладзімір Ільіч перапыніў яе — спытаў:

— Колькі гадоў вашай дачцэ? На што яна хварэе? Доктара выклікалі?

— Шэсць гадкоў. Сёмы. Глядзеў завадскі фершал, выпісаў лякарствы, але хіба купіш іх, — то няма, то цана буржуйская, не па нашай кішэні.

Уладзімір Ільіч нахмурыў лоб, сказаў задумліва:

— М-да,— павярнуўся ў крэсле, дастаў са стала блакнот, карандаш, нешта запісаў.

Маму здзівіла, як хутка ён пісаў, ніколі да таго яна не бачыла, каб хто так хутка пісаў. Не скончыўшы пісаць, Ленін спытаў:

— А сын вучыцца ў школе?

— Не, не вучыцца. Дзвв зімы пахадзіў, а больш няма як.

Уладзімір Ільіч адарваўся ад блакнота, паглядзеў маці ў вочы, спытаў:

— Чаму няма як? Чаму?

— Ды як жа яму вучыцца, таварыш Ленін! Я на заводзе, малая хворая? Хто яе дагледзіць, накорміць? А хто дровы дастане. Без Васі мы ад холаду памерлі б даўно. Але баюся я, калі ён ходзіць па дровы. Яшчэ заб'юць буржуі, бо ён платы ў іх ламае.

Маці пасля з сябе здзіўлялася, што раптам так разгаварылася; з суседкамі, з сяброўкамі па рабоце і то нё была такой гаваркой.

— Ламае буржуйскія платы? — перапытаў Уладзімір Ільіч і хораша гэтак, шчыра засмяяўся, але тут жа сур'ёзна спытаў: — Скажыце, таварыш, а вы маглі б уладзіць так, каб сын пайшоў у школу? — і горача пачаў пераконваць: — Для рэвалюцыі вельмі важна, каб дзеці рабочых вучыліся. Рабочы клас узяў уладу, пачаў будаваць новае жыццё, і нам неадкладна трэба рыхтаваць адукаваных людзей. Вучыць дзяцей рабочых, сялян. Я разумею, што вам нялёгка. Але нельга, каб сын чырвонаармейца не вучыўся! Прашу вас зрабіць усё магчымае... Скажыце, можна зрабіць гэта?

Маці адказала, не вельмі, праўда, упэўнена:

— Зробім, таварыш Ленін. Пашлю Васю ў школу.

— Выдатна. Выдатна,— шчыра ўзрадаваўся Уладзімір Ільіч, нібы даўно ведаў нашага Васю і доўга трывожыўся, што той не ходзіць у школу, і адразу зацікаўлена спытаў пра іншае:

— А як жа жывуць вашы браты? Што ў сяле? Што кажуць мужыкі?

— Браты мае рады, што зямлі нарэзалі. Кажуць, калі зямля будзе ў тых, хто робіць на ёй, то Расія не памрэ з голаду.

— Правільна. Вельмі правільна разважаюць вашы браты. Зямлю памешчыцкую ім нарэзалі?

— Князя вялікага зямля каля нашага сяла. І лес яго...

— Вялікія і малыя князі валодалі мільёнамі дзесяцін, а сяляне гнулі на іх спіны. Колькі зямлі было ў вашых братоў?

— Мала. Я ўжо і не ведаю, колькі яе было, але ведаю, што мала. Бо бацька толькі аднаго, старэйшага, Кузьму здолеў аддзяліць. Іван і Пятро разам жылі, бо не было чаго ўжо дзяліць, цяпер толькі

падзяліліся. Калі я замуж выходзіла, то браты радаваліся, што за заводскага выходжу, што ў пасаг зямлі не трэба даваць.

— Радаваліся? — перапытаў Уладзімір Ільіч.

Маці спалохалася, што Ленін можа дрэнна падумаць пра братоў яе, і растлумачыла:

— Ад беднасці гэтая радасць.

— Але, ад беднасці,— згадзіўся Ільіч.— А вы не шкадуеце, што пайшлі ў горад?

— Не шкадую. Цяжкая ў сяле бабская доля. У горадзе нашай сястры вальней дыхаецца. Калі муж не п'е ды не б'е. Мой не піў і масцеравы добры.

Зазваніў тэлефон. Маці добра запомніла, што менавіта на гэтых яе словах ён зазваніў.

Ленін папрасіў прабачэння, імкліва падняўся з крэсла. Пакуль ён ішоў да тэлефона, што вісеў на сцяне, збоку ад стала, маці з жахам падумала, што яна так бессаромна разгаварылася, расселася, як у гасцях, і скаргамі сваімі бабскімі ды расказамі займае ў Леніна час, які патрэбны не для такіх дробных, як у яе, спраў — для вялікіх, дзяржаўных. Ды яшчэ бога памянула, а бальшавікі ў бога не вераць.

Ленін узяў трубку, паслухаў, і маці ўбачыла, як змяніўся яго твар, толькі што быў добры, спагадлівы, уважлівы і раптам зрабіўся суровы-суровы. І голас змяніўся; ласкавы быў, цёплы, а зрабіўся сярдзіты, халодны.

— Але, я чытаў і ўжо напісаў члену рэўваенсавета па гэтай справе. Фелікс Эдмундавіч! Ад Чэка патрабую абавязкова, падкрэсліваю,— абавязкова, злавіць і расстраляць гэтых спекулянтаў і хабарнікаў. З гэтай сволаччу трэба расправіцца так, каб усе на гады запомнілі. Прашу вас узяць пад свой кантроль. Пашліце разумных чэкістаў.

Маці маёй ад такіх слоў зрабілася страшна, яна тады не ведала яшчэ ўсіх бязлітасных законаў класавай барацьбы, і само слова расстрэл яе палохала.

Ленін павесіў трубку і ўзбуджана прайшоўся па кабінеце, залажыўшы рукі за спіну. На нейкі момант як бы забыўся на маці, апанаваны іншымі думкамі. Але хутка спыніўся перад ёй, растлумачыў:

— Банда спекулянтаў і хабарнікаў прабралася ў савецкія органы і зрывае забеспячэнне арміі. Мы ваюем за кожны пуд хлеба, адрываем яго ад вашай хворай дачкі, каб накарміць армію, а яны крадуць тысячы пудоў, адзенне. Што загадаеце рабіць з такімі людзьмі? Расстрэльваць! Так, так, расстрэльваць! Бо яны горш за тых, якія страляюць у чырвонаармейцаў на фронце. Так, так, Горш за самых злосных адкрытых ворагаў.

Уладзімір Ільіч павярнуўся да стала, на міг задумаўся, потым узяў той жа блакнот, спытаў, дзе мы жывём.

Запісаў адрас і, трымаючы ў адной руцэ блакнот, крутнуў ручку тэлефона.

— Калі ласка, таварыша Сямашку. Мікалай Аляксандравіч! Я нрашу вас выканаць адну маю просьбу. У мяне на прыёме работніца патроннага завода таварыш Кузьмянкова. У яе хварэе дачка, дзяўчынцы шэсць гадоў. Дайце, калі ласка, указанне бальніцы паслаць на кватэру Кузьмянковай талковага доктара. Але, вопытнага ўрача, які мог бы паставіць дыягназ, назначыць лячэнне. Запішыце адрас: вуліца Акалотачная, дом нумар семнаццаць, кватэра тры. І дайце ўказанне, каб лякарствы, якія будуць назначаны, выдалі Кузьмянковай бясплатна. Мікалай Аляксандравіч! Ці можа Наркамздраў узяць усіх хворых дзяцей на ўлік? Не паўтарайце, калі ласка, агульнавядомыя ісціны. Я ведаю, што ў нас мала ўрачоў, мала бальніц. Але мы павінны пачаць гэтую справу. Пачніце з Масквы. Дайце вашы прапановы Саўнаркому.

Маці сядзела ашаломленая: выходзіць, усхваляваны справай дзяржаўнай, Ленін нічога не забыў — ні хворую Анечку, ні прозвішча яе, імя па бацьку, а за адно падумаў пра ўсіх дзяцей.

А калі Уладзімір Ільіч сказаў:

— Наконт вашай просьбы, Аксіння Ерафееўна. Я напішу ў Маскоўскі прадсаўдэп, папрашу таварышаў, каб выдалі вам пасведчанне на дазвол правезці не куплены, свой, ад братоў, хлеб,— маці адчула, што вось-вось разрыдаецца — ад радасці, ад удзячнасці, ад іншых пачуццяў, нязвыклых, якіх, можа, да таго яшчэ і не ведала. Разумела, як гэта будзе недарэчна, сорамна, зараўці па-бабску ў Леніна — і трымалася з усяе сілы, зацiснула рот, нібы ў яе забалелі зубы.

Ленін сеў у крэсла за стол і пачаў пісаць. Спыніўся. Падняў вочы.

— Колькі браты абяцаюць вам хлеба?

Маці не адразу здолела адказаць, прашаптала, як тайну:

— Тры пуды.

— Напішам — чатыры,— сказаў Уладзімір Ільіч, дапісаўшы, вырваў лісток з блакнота, падышоў да маці, працягнуў запіску.

— У прыёмнай вам раскажуць, як прайсці ў саўдэп, да каго звярнуцца. Усяго вам добрага, таварыш.

Пацiснуў на развітаннеі руку. Правёў да дзвярэй і зноў нагадаў:

—А сына пашліце ў школу. Абавязкова.

Словы гэтыя ленінскія моцна адбіліся ў памяці — на ўсё жыццё, мама ўсё зрабіла, каб мы вучыліся. А вось ці адказала яна што Уладзіміру Ільічу на гэтыя словы — не помніла. Помніла толькі, што не

падзякавала. Забылася. Калі ў прыёмную выйшла, тады толькі падумала пра гэта.

І так ёй нядобра зрабілася ад таго, што не падзякавала, сорамна, крыўдна за сябе. Спынілася пасярод пакоя, асцярожна, каб не пакамечыць, прыціскаючы запіску да грудзей, і глядзела на тых, хто чакаў сваёй чаргі — а іх многа было ўжо ў прыёмнай, усім хацелася пагаварыць з Леніным. І яны глядзелі на маці, некаторыя з усмешкамі — мабыць разумелі, што ў яе на душы пасля такой сустрэчы. Хораша ўсміхнуўшыся, прайшла міма яе — у кабінет да Леніна — Лідзія Аляксандраўна.

Маці вырашыла дачакацца, калі яна вернецца, і перадаць падзяку праз яе, каб не падумаў Ленін, што яна такая хапуння і недарэка: атрымала запіску на хлеб і пра усё забылася.

Сакратар хутка выйшла і сказала да маці:

— Пачакайце хвіліначку, таварыш Кузьмянкова.

А пасля запрасіла да Леніна тых, дваіх, шыкоўна

для таго часу адзетых, з тоўстым партфелем, якія размаўлялі паміж сабой на замежнай мове.

Калі дзверы за імі зачыніліся, Лідзія Аляксандраўна падышла да маці, ціха сказала:

— Зараз вас правядуць у саўнаркомаўскую сталоўку. Вось вам талончык. Падсілкуйцеся, а то вам прыйшлося нямала пахвалявацца. У вас бледны твар.

Мац і здагадалася, што і гэта — ад Леніна і... задыхнулася, спазмы сціснулі горла; пракаўтнуўшы слёзы, яна вінавата нрызналася:

— А я не падзякавала... Калі ласка, прашу вас, даражэнькая, перадайце таварышу Леніну, што я... мае дзеці...

—Не хвалюйцеся. Уладзімір Ільіч усё разумее,— супакоіла маці Лідзія Аляксандраўна.

У сталоўцы — невялічкай зале — было пуста, снеданне даўно скончылася. Паясылая жанчына падала маці талерку супу і маленькую скібачку хлеба — трэць рабочай пайкі. Суп быў рэдкі, ненаварысты, але ад яго смачна пахла прысмакамі — цыбуляй, лаўровым лістам, перцам.

Маці пайшла з дому без снедання, згаладалася, але зачэрпнула першую лыжку, і з вачэй яе пырснулі слёзы, адна, буйная, капнула ў лыжку. І яна не выцірала іх, не саромелася, што нехта ўбачыць. Гэта был і слёзы радасці незвычайнай, якой яна ніколі не ведала, але радасці не ад таго, што яна атрымала больш, чым спадзявалася, ідучы да Леніна. Не, гэта была радасць, шчасце ад таго, што яна адчула, зразумела, сэрцам і розумам, нешта значна большае.

Маці сорак гадоў расказвала пра гэтую падзею, самую памятную ў яе жыцці, і кожны раз перажывала, што яна не можа — не хапае ў яе слоў,— каб перадаць тое сваё адчуванне, і кожны раз баялася, што не усе разумеюць, што яна адчула. Да таго, малапісьменная, яна не разумела ўвесь сэнс рэвалюцыі, а тут, у Крамлі, у Леніна, за якую паўгадзіну зразумела самае істотнае, самае галоўнае.

Адкрыўся перад ёй новы свет, і яна ўступіла ў яго, адчула сябе зусім другім чалавекам, вольным, роўным,— грамядзянкай. У той міг яна ўбачыла будучае дзяцей сваіх — наша шчасце.

У тумане слёз перад маці стаяў вобраз правадыра, яна чула яго голас. «Дайце, калі ласка, указанне бальніцы паслаць на кватэру Кузьмянковай талковага доктара. А сына пашліце ў школу. Абавязкова».

Маці схамянулася, калі нехта папрасіў дазволу сесці за яе стол. Чалавек у пенснэ, з сівай бародкай сеў напроціў. Можна было выбраць любы стол, але, магчыма, чалавек убачыў, што жанчына плача, і, не зразумеўшы адразу, з якой прычыны, вырашыў суцешыць.

Маці выцерла слёзы і весела ўсміхнулася яму, не саромеючыся, смела і проста, быццам перад ёй добры стары знаёмы, хоць перад ёй сядзеў вучоны чалавек, інтэлігент, а вучоных яна да таго дня саромелася, баялася і не любіла, бо лічыла, што ўсе яны з буржуйскага класа. Чалавека здзівіла яе ўсмешка, мама ўбачыла яго здзіўленне і яшчэ больш павесялела.

Новаму наведвальніку падалі суп і такую ж скібачку хлеба. Яны пачалі есці. Але маці сёрбала суп без хлеба. Чалавек спытаў:

— Чаму вы не ясце хлеб?

Маці паглядзела на хлеб і нечакана для самой сябе адказала:

— Я вазьму яго дзецям. Можна?

— Вядома, можна. Я дам вам паперу,— паклаў лыжку і палез у партфель, які стаяў на падлозе.

Маці ўзрадавалася гэтай думцы — прынесці для мяне і В а сі хлеб ад Леніна. Маленькая скібачка стала для яе вялікім сімвалам, як шмат што іншае ў той дзень.

Чалавек паклаў на стол бялюткі лісток паперы. Маці паклала. хлеб на паперу. Спытала ў чалавека:

— Вы Лен і на. бачылі?

Ён усміхнуўся.

— Я працую ў Саўнаркоме,— і, убачыўшы, што гэта ё.й не ўсё растлумачыла, дадаў: — Мы страчаемся амаль штодня.

— Штодня?! — маці адчула вялікую павагу да гэтага сівога старога з худым хваравітым тварам, пазайздросціла яму. І, вядома, не магла ўтрымацца, каб не сказаць яму пра сваю радасць.

— Я таксама была ў Леніна. Толькі што.

Тады, напэўна, старому бальшавіку стала ўсё зразумела: яе слёзы, і нечаканая ўсмешка., і гэты хлеб для дзяцей.

Яшчэ малая, школьніца, слухаючы матчын расказ, я надумала так: той стары ўсё зразумеў, што было ў душы простай жанчыны. А вось дзядзька Іван — гэта я сама бачыла, помню,— доўга не мог паверыць і зразу мець.

Маці, калі вярнулася дадому, кінулася да мяне, радасная, скібачку хлеба дала:

— Гэта табе ад Леніна, Анечка.

Дзядзька нядобра так усміхнууся, барадаты твар яго скрывіўся. Маці пачала расказваць, як была яна ў Леніна, пра што яны гаварылі.

Дзядзька зноў нядобра ўсміхаўся.

— Накармі іх казкамі. Ыавучылася ты, Аксіння, баяць казкі.

Тады маці, адчуўшы, што брат не верыць ёй, пачала даказваць, пасведчанне на хлеб паказала, якое выдалі ў саўдэпе.

На вачах маіх мяняўся выраз дзядзькавага твару. Урэшце, паверыўшы сястры, селянін перахрысціў сваю бараду і сказаў:

— Дзякуй богу. Значыцца, праўда ўсё, што расказваў нам камісар.

# ДУБЫ

Над лесасекай, зарослай густымі кустамі арэшніку, плыло павуціннe бабінага лета. Плыло ў бок маладога, як бы абпаленага дзівосным агнём, асінніку. Але (так здавалася здалёк, з другога краю лесасекі) павуціннe, нібы баючыся згарэць на гэтых агністых лісцях, не чаплялася за асіны, а, даляцеўшы туды, раптам узнімалася вышэй іх і ляцела ў ясны, на дзіва глыбокі блакіт асенняга неба і як бы раставала ў гэтай бяздоннай сіняве. Сонца нядаўна схілілася з паўдня, але хавалася ўжо за лесам, і на дзялянку падаў доўгі зубчасты цень, дзе-нідзе разрэзаны сонечнымі прасветамі.

Па лясной сцежцы, звілістай і вузкай, засланай залатым дыванom бярозавага лісця, ішлі тры чалавекі ў форменных шапках лясной варты. Відаць, як у большасці людзей іх прафесіі, яны не вызначаліся залішняй гаварлівасцю.

Каля лесасекі самы старэйшы з іх, ссутулены, з худым маршчыністым тварам і сівымі вусамі, гэтак жа моўчкі звярнуў са сцежкі і закрочыў паміж кустамі арэшніку.

Самы малады ляснік здзіўлена паклікаў яго:

— Ігнат Макаравіч! Куды вы?

Стары, не азірнуўшыся, махнуў рукой, як бы даўшы знак: ідзіце сваёй дарогай, не звяртайце на мяне ўвагі.

— Макаравіч! Мы ж дамаўляліся пабываць на пасёлку...

— Не чапай,— сказаў трэці,— Пайшоў да дубоў. Параіцца...

— З дубамі?

— Ён, брат, з дрэвамі, што з дзецьмі, размаўляе. А дубы гэтыя вельмі дарагія яму. Хіба я не расказваў табе?

Між тым стары ляснік, мінуўшы лесасеку, прайшоў малады асіннік, потым па жардзінах, нябачных у траве, перабраўся цераз пойму невялікай рачулкі. Тут, у пойме, раслі вольхі, гонкія, але амаль кожная са скрыўленым крыху камлём, бо раслі яны кустамі ка высокіх купінах. Вясновая вада вымывала ў купінах норы, агаляліся чырвоныя карэнні, але вольхі, сплёўшыся карэннямі, трымалі адна адну, і рэдка якая падала пад націскам ветру. Ігнат Макаравіч, які ведаў і шанаваў кожнае дрэва ў абходзе, не надта любіў гэтыя балотныя вольхі. Вось і зараз, калі ўвесь лес гарыць золатам, у якое яго ўбрала восень, алешнік гэты як бы не прызнае яе законаў і паводзіць сябе дзіўна: угары ўвесь яшчэ зялёны, а трава ўнізе засыпана лісцем, пачарнелым, скручаным, як гарэлая бляха. Непрыкметна і непрыгожа скідае сваё летняе ўбранне!

Стары перайшоў па кладцы, зробленай яго рукамі, рачулку, выбраўся на сухі высокі бераг. Адгэтуль пачынаецца дубовы гай. Векавыя дубы стаяць паважныя, спакойныя ў сваёй веліччы. Яны не то што не падпарадкоўваюцца агульным законам восені, яны проста, адчуваючы сваю сілу і моц, скараюцца ёй у апошнюю чаргу. Подых восені мала яшчэ крануў іх. Рэдкія лісці зрываліся з галін асілкаў і ляцелі ўніз павольна, асцярожна, як разведчыкі, лажыліся на зямлю роўна і прыгожа, накрываючы жоўта-зялёныя жалуды, якія, наадварот, падалі з вышыні імкліва, як кулі, і гучна чмякаліся аб мяккую зямлю.

Ігнат Макаравіч запаволіў хаду, нахіліўшыся, падняў колькі жалудоў, паклаў у кішэнь. Глянуў угару. Ён любаваўся дубамі. Але гэта былі яшчэ не тыя дубы, да якіх ён ішоў, каля якіх яму захацелася пасядзець. Тыя крыху далей. 1м не па дзвесце і не па сто, а ўсяго па сорак год. Вось яна: нешырокая, але доўгая дзялянка, паўз квартальную прасеку, у абкружэнні больш сталага лесу з роўнымі радамі не надта высокіх, але дзябёлых, прыгожых, з белаватай карой, з густымі шапкамі галля маладых дубоў. З першага ж позірку відаць, што дубы гэтыя пасаджаны чалавекам і што клапатлівыя ўмелыя рукі заўсёды прысутнічалі тут.

На краі дзялянкі, як быцька, як вартавы, узвышаецца стары волат-дуб, магчыма, самы стары ў гэтым гаі, з парадзелым голлем, з глыбокімі шрамамі ад удараў маланкі. Моладзь пачціва адступіла ад старога, і тут утварылася ўтульная палянка. На гэтай палянцы, за акуратнай агароджай з дашчэчак,— два магільныя курганчыкі, два любоўна выструганыя з цэлых кавалкаў дубу абеліскі. На кожным простыя надпісы.

На адным:

КРЫЛОЎ
АРСЕНІЙ ВЕНІЯМІНАВІЧ
1894-1921

На другім:

ЦВІРКУН
КАНСТАНЦІН ІГНАТАВІЧ
1923-1943

Ігнат Макаравіч падышоў да магілак, зняў сваю форменную шапку, пастаяў хвіліну. Потым сеў на маленькую лавачку пад старым дубам. Аднекуль дыхнуў вецярок, і загаманілі маладыя дубы, як бы вітаючы свайго гаспадара. Стары ляснік ласкава паглядзеў на іх і, нахіліўшы сваю галаву, глыбока задумаўся. Амаль усё яго жыццё звязана з лесам, з гэтымі дубамі і гэтымі магіламі...

* *

Даўным-даўно, яшчэ за некалькі год да першай сусветнай вайны, прыйшоў ён, малодшы сын малазямельных бацькоў, на заробткі ў лес, які належаў тады князю Паскевічу. Старанны, працавіты хлопец спадабаўся ляснічаму — пану Касоўскаму, і той «ашчасліві́ў» яго — паставіў на абход пры сабе, пры канторы. Але «лягчэйшы абход» даўся Ігнату ў знакі, бо быў ён тут не тольКі лесніком, але адначасова кучарам, качагарам, лакеем і нават нянькай у пана ляснічага. Працаваў з цямна да цямна, не разгінаючы спіны. Ажно дзічаць пачаў у лесе, бо ніколі не меў часу збегаць у вёску, пагутарыць з людзьмі. Ды і недалюблівалі яго ў вёсцы — занадта ён выслужваўся перад панам. Ляснічы ўратаваў яго ад прызыву на вайну — трэба ж некаму сцерагчы княжацкі лес,— і Ігнат пачаў старацца яшчэ больш. Неівядома, каго зрабіў бы з яго пан Касоўскі, каб у шаснаццатым годзе не з'явіўся ў лясніцтва новы чалавек. Прыехаў на пасаду пісара звольнены з арміі па раненню, хворы на сухоты, прапаршчык, былы петраградскі студэнт, Арсеній Веніямінавіч Крылоў. Чалавек гэты з першых жа дзён здзівіў Ігната. З леснікамі і сялянамі ён вітаўся за руку і гутарыў не так, як афіцэр і пан, а як свой, як роўны з роўнымі. Ігнат спачатку нават баяўся яго і пазбягаў. Але веільмі ж ужо душэўны чалавек быў гэты пісар, і хутка яны пасябравалі. Ігнат упершыню пачуў з вуснаў адукаванага чалавека пра тое, пра што марылі бедныя аднавяскоўцы яго.

— Зямля павінна належаць тым, хто працуе на ёй. Усе багацці зямлі павінны належаць народу. Народ — гаспадар усяго, а не паны і князі.

Наконт зямлі — гэта Ігнату падабалася, бо і сам ён марыў набыць калі-небудзь з^ласны кавалак зямлі, не век жа яму лесніkаваць. Усё іншае яму цяжка было зразумець адразу.

— А лес? — спытаў ён, калі Арсеній Веніямінавіч гаварыў нра «ўсе багацці зямлі».

— І лес, безумоўна, будзе належаць народу!

Ігнат ажно недаверліва засмяяўся тады (ён і цяпер добра памятае той смех).

— З зямлёй мужык справіцца. А вось лес... Высекуць без гаспадара... Загіне лес,— Ён палюбіў лес, і яму было цяжка думаць, што яго могуць знішчыць, калі не стане аднаго гаспадара.

— Дык як жа без гаспадара! Ах, Ігнат, Ігнат! Выходзіць, толькі Паскевічы гаспадары, якія ў вочы не бачаць гэтага лесу. А мы з табой — не гаспадары? Ды калі нам народ даверыць пільнаваць гэтае багацце, гэту прыгажосць,— паказваў Крылоў на лес, — хіба мы

дазволім каму-небудзь знішчаць яго? Ты што ж думает, рэвалюцыя — гэта анархія: бі — каго хочаш, знішчай — што можаш? Не, брат, рэвалюцыя — гэта найвышэйшы парадак, найвышэйшая законнасць.

Патроху Ігнат пачынаў разумець, што ад чаго. З фронту вярталіся салдаты, і яны, злосныя, незадаволеныя, таксама гаварылі пра тое, што пара канчаць вайну і трэба забіраць у памешчыкаў зямлю. Крылоў хадзіў па вёсках, сустракаўся з надзейнымі людзьмі ў лесе. Ігнат дапамагаў яму ў гэтых сустрэчах.

І рэвалюцыя прыйшла. Вестку аб ёй прывёз напрадвесні з горада сам Касоўскі. Ігната ўразіла, hitq ляснічы расказваў пра звяржэнне цара з задавальненнем. Арсеній Веніямінавіч сваю радасць не праявіў чамусьці. Калі ж праз колькі дзён ён атрымаў газеты і прачытаў іх, то сказаў Ігнату:

— Прагналі цара — добра. Але гэта паўсправы. Наша рэвалюцыя яшчэ наперадзе. Ёй Касоўскі не ўзрадуецца, бо мы турнём і радзянак і мілюковых, і паскевічаў, і ўсіх крывасмокаў, а разам з імі і халуёў іх — касоўскіх. Рэвалюцыянер знайшоўся! Падлюга!

Пад восень Крылоў, нічога не сказаўшы, некуды знік. Ігнат са смуткам думаў, што ён з'ехаў назаўсёды, і моцна шкадаваў: здавалася, што са знікненнем Крылова аддаляецца наступленне таго незвычайнага, светлага, пра што ён гаварыў і ў што паверыў Ігнат. Цяпер Касоўскі не любіў лесніка і, па ўсіх прыдзірках было відаць, меў намер звольніць. Але пад канец восені, калі лес скідаў апошняе лісце, Крылоў раптам вярнуўся. Ён неспадзявана з'явіўся ў леснічоўцы і абняў Ігната.

— Ну, Ігнат! Прыйшло наша свята, наша рэвалюцыя! У Петраградзе пралетарыят узяў уладу ў свае рукі. Таварыш Ленін узначаліў першы Савецкі ўрад. Зямля — сялянам, заводы — рабочым... Прынят дэкрэт аб міры. Давай, брат, і мы з табой браць у нашым лесе ўладу...

Яны пайшлі ў кантору, адчынілі кабінет ляснічага, і Крылоў сеў за яго стол.

— Ідзі, Ігнат, пакліч Касоўскага.

На ганку кватэры ляснічага Ігнат на нейкі момант сумеўся: як цяпер звярнуцца да пана, як назваць яго, хто яго выклікае? Потым рашуча пастукаў.

Касоўскі адпачываў пасля абеду.

— Што табе трэба, Цвіркун? — спыгаў ён, нездаволены тым, што яго патурбавалі.

— Вас кліча... таварыш Крылоў.

— Хто? — Вочы ў пана ляснічага сталі, як шклянкі, быццам яго знянацку стукнулі паленам па галаве.

— Таварыш Крылоў,— гучна паўтарыў ляснік і, не даючы ніякіх тлумачэнняў, выйшаў.

Не вельмі паспешліва, але Касоўскі ўсё ж з'явіўся ў кабінет. Убачыў Крылова ў сваім крэсле — збялеў, ажно закалаціўся ўвесь. А былы пісар, узлёгшыся худымі грудзьмі на стол, крыху стомленым голасам сказаў:

— Я дзейнічаю ад імя павятовага рэвалюцыйнага камітэта... І паклікаў вас, пан Касоўскі, каб сказаць... У Расіі адбылася пралетарская рэвалюцыя. З'езд Саветаў прыняў дэкрэт аб зямлі. Зямля нацыяналізавана... Вашы гаспадары больш не існуюць... Даволі ім панаваць! Служыць вам няма каму. Народу вашы паслугі непатрэбны. А таму я прапаную вам пакінуць лясніцтва...

Ігнат, які стаяў ззаду ляснічага, убачыў, як пaступова налівалася крывёй яго тоўстая патыліца, ажно страшна стала глядзець на яе: здавалася, вось-вось пырсне кроў з тлустай шыі. Але здарылася іншае. Касоўскі раптам закрычаў:

— Хам! Сволач! Не ўзялі цябе ў верасні, дык атрымлівай цяпер! —і выхапіў з кішэні пісталет. Можа б яшчэ тады загінуў бясстрашны чалавек, змагар за народную праўду, каб побач не стаяў верны друг, якому ён адкрыў вочы на гэтую вялікую праўду. Ігнат, малады, дужы, у адзін міг апынуўся каля ляснічага, моцна ўдарыў па руцэ, якая накіроўвала пісталет на Крылова. Ляснуў стрэл, але куля трапіла ў партрэт Керанскага, што вісеў над сталом, на тым месцы, дзе раней красаваўся ў залатой раме імператар усяе Русі Мікалай Другі.

— Дзякую, Ігнат,— ціха сказаў Крылоў, прымаючы пісталет, які ляснік вырваў у раз'юшанага пана Касоўскага.

Убачыўшы, куды трапіла куля, Крылоў засмяяўся.

— Вось бачыце, нават куля ведае, куды ляцець,— потым сурова сказаў Касоўскаму, які зноў збялеў, як нябожчык:

— Я маю права шлёпнуць цябе, контра... Але не хочацца ў такі радасны час пэцкаць рукі... Адвязі, Ігнат, сям'ю пана Касоўскага ў горад.

Па дарозе былы ляснічы маўчаў, як анямелы. Пані, якая ўвесь час стагнала, ахала і нешта казала мужу на незразумелай Ігнату мове, спытала:

— Каму ж ты цяпер, Ігнат, служыць будзеш?

— Народу,— не задумаўшыся, адказаў ляснік.

Касоўскі, устрапянуўшыся пры гэтым слове, утаропіў на лесніка свае шкляныя вочы, нібы раптам убачыў перад сабой зусім новага чалавека, і ціха вылаяўся папольску:

— Пся крэў.

Калі Ігнат вяруўся з горада, Крылоў, радасна ўзрушаны, вясёлы, забыўшыся на выпадак з Касоўскім, быццам і не было яго — драбяза гэты стрэл у параўнанні з тым громам, які скалыхнуў увесь свет! — дапытваўся:

— Ды ты разумееш, Ігнат, што адбылося? Пралетарская рэвалюцыя! Пачалася новая эра ў жыцці чалавецтва! Не, табе гэта адразу не зразумець!

— Разумею,— адказаў Ігнат, з усмешкай назіраючы, як бурна радуецца гэты незвычайны і добры чалавек.

— А калі разумееш, то скажы, чым нам тут, у палескім лесе, адзначыць такую падзею?

Ігнат падумаў і нрананаваў:

— Давайце пасадзім дрэвы.

Крылоў кінуўся да яго, сціснуў рз'кі, збянтэжыўшы лесніка, які не прывык да такога выяўлення пачуццяў.

— Ігнат! Ты — геній! Пасадзіць дрэвы, лес — на радасць новым людзям! А не позна?

— Восень цёплая, зямля не замёрзла яшчэ. У нас ёсць жалуды...

— Дубы! Пасадзім дубы, якія будуць расці трыста, пяцьсот год! Цудоўна, мой друг!

У той жа дзень яны выбралі вось гэту дзялянку, дзе яшчэ перад вайной былі высечаны старыя дубы, выцерабілі кусты і з дапамогай жонкі Ігната і яшчэ аднаго лесніка пасадзілі жалуды. Як яны працавалі тыя два дні, з якой радасцю, асабліва Крылоў! У Ігната Макаравіча і цяпер стаіць перад вачамі, як малады рэвалюцыянер на каленях поўзаў па сырой зямлі і любоўна накрываў кожную лунку.

А потым — вайна з тымі, хто імкнуўся задушыць рэвалюцыю, вярнуць старыя парадкі. Крылоў пайшоў абараняць маладую рэспубліку Саветаў. Першай вясной Ігнат гэтак жа поўзаў на каленях і абполваў ледзь бачныя ў траве парасткі, зрабіў падсадку там, дзе жалуды не далі ўсходаў, загінулі... Вельмі дарагімі сталі для яго гэтыя пасадкі. А потым і ён пайшоў на вайну, наказаўшы жонцы глядзець за дубамі. Вярнуўся праз два гады — у дваццатым — і ўзрадаваўся, сустрэўшы Крылова ў лясніцтве першым савецкім ляснічым: яго, раненага і хворага, дэмабілізавалі раней. Абняліся, пацалаваліся і першае запытанне — пра дубы.

— Растуць, Ігнат, нашы дубы. Набіраюцца моцы,— адказаў Крылоў.

Разам пачалі яны наводзіць парадаку лесе, уякім за гады вайны было нароблена многа шкоды. І ўсюды навокал — у гарадах, у сёлах, у першых камунах — усталёўваўся савецкі парадак. Але блукалі па

лясах яшчэ рэшткі разбітых банд. Недалёка за Сожам дзейнічаў нейкі атаман «Каса».

І вось у дваццаць першым годзе, у асенні дзень, адвячоркам, да канторы лясніцтва прыскакалі тры коннікі.

— Ляснічы! — паклікалі яны.

Крылоў выйшаў на ганак у акулярах, з алоўкам у руцэ (кожную вольную хвіліну ён чытаў ці пісаў — вучыўся). Ігнат быў нечым заняты ў сваёй леснічоўцы, калі яго старэйшы хлопчык, убачыўшы праз акно, што здарылася каля канторы, закрычаў:

— Тата! Забілі! Дзядзьку Арсенія!..

Ігнат, калі глянуў, не ўбачыў Крылова (той ляжаў ужо мёртвы — бандыт засек яго шабляй), але адразу пазнаў аднаго з коннікаў. Пан Касоўскі! Былы ляснічы! Нядоўга думаючы, ляснік сарваў з цвіка цяжкую аўстрыйскую вінтоўку і, выбіўшы шыбу, злавіў пана на мушку. Ад нечаканага стрэлу неспакойны стаеннік скочыў за загародку, і цела атамана «Касы» павісла на паркане. Астатнія бандыты з крыкам «засада!» кінуліся наўцёкі.

Ігнат упрасіў таварышаў з горада дазволіць пахаваць Крылова тут, у лесе, каля дубоў, што пасаджаны яго рукамі ў гонар рэвалюцыі.

Ішлі гады. Раслі дубы. Падрасталі сыны лесніка, чатыры дужыя і разумныя хлопцы — радасць бацькоў. Ім, сынам сваім, і піянерам, што часам прыходзілі сюды, пад стары дуб, на магілу, Ігнат Макаравіч расказваў пра чалавека з вялікім сэрцам, пра мужнага рэвалюцыянера — Арсенія Крылова.

Раслі сыны — расло шчасце... Самы старэйшы, Павел, скончыў рачны тэхнікум і ўлсо плаваў на Дняпры капітанам буксіра. Мікола, які не вельмі быў здатны да навукі, але добры работнік на зямлі, збудаваў сабе хату ў вёсцы і працаваў у калгасе. Арсеній паступіў у Ваенна-медыцынскую акадэмію. Малодшаму, Косцю, крыху не пашанцавала: малы ён упаў з дрэва і пашкодзіў нагу. Можа, праз гэта, а можа, праз тое, што Косця больш, чым іншыя дзеці, любіў лес і вырашыў прысвяціць яму жыццё — пайшоў у лясны тэхнікум, Ігнат Макаравіч адчуваў асаблівую любоў да малодшага сына.

Раслі дубы... Знаходзілі сваё шчасце дзеці. Але раптам грымнула вайна, прыйшла навала... Павел і Мікола пайшлі ў армію, Арсеній застаўся недзе там, у акадэміі. Адзін Косця з тэхнікума мусіў вярнуцца дадому.

Ляснічы, стары чалавек, камуніст, адступіў са сваімі, каб не трапіць у рукі фашыстаў. Акупанты прыслалі свайго ляснічага, нейкага здрадніка з ласкавым прозвішчам — Сінічкін і замашкамі крамольніка. Быў ён поўны невук. Ды і якая трэба была навука, каб

бязлітасна знішчаць народнае багацце — высякаць лес па загаду фашыстаў, прадаваць направа і налева за выпіўку і закуску. У лес Сінічкін баяўся хадзіць, гаспадарку не ведаў, аднак нейкім чынам пранюхаў пра дубы — з якой прычыны і кім яны пасаджаны.

І вось аднойчы, вясной сорак другога года, Сінічкін паклікаў Ігната Макаравіча. Той з'явіўся, стаў каля дзвярэй.

— Я слухаю... пан ляснічы.— Ён зноў запнуўся на гэтым праклятым «пан» — цяжка было старому вымаўляць ненавіснае слова, на якое ён даўно забыўся.

Сінічкін раздражнёна забарабаніў пальцамі па стале і ўтаропіў свае п'яныя шчылінкі-вочы на лесніка. Ён усіх выпрабоўваў такім пранікліва-нахабным позіркам і радаваўся, калі людзі не вытрымлівалі, бянтэжыліся, апускалі вочы. Але Цвіркун кожны раз вытрымліваў яго позірк. І гэта. моцна злавала «пана ляснічага».

— Вось што, Цвіркун,— мяккім, лагодным голасам загаварыў Сінічкін,— Я маю заданне на дз^бовую стойку. Як ты думаеш, дзе нам яе нарыхтаваць?

— Дубовую? Можна выбаркай...— сур'ёзна адказаў Ігнат Макаравіч, не здагадаўшыся адразу, што пытаецца гэты гад для здзеку.

— Выбаркай? Ха-ха.— Сінічкін злосна зарагатаў і ўжо з яўным здзекам спытаў: — Шкадуеш народнае дабро? Спадзяешся, што бальшавікі вернуцца? Не, мы па дрэўку выбіраць не будзем. Мы, таварыш Цвіркун, высечам дубкі ў сто дванаццатым,— Вочкі яго сталі маслянымі, як у ката, і глядзеў ён на лесніка, як драпежнік на ахвяру. Ігнат Макаравіч адчуў, як дрогнула сэрца і заварушыліся пальцы рук, гатовыя сціснуцца ў кулакі. Упершыню ён апусціў вочы перад здраднікам, не вытрымаўшы яго позірку.

— Каму спатрэбіліся дваццаціпяцігадовыя дубы?

— О, ты дакладна ведаеш іх узрост?

— Я садзіў іх.

— Вось і добра. Шыкарна. Ты садзіў — ты і высечаш. Заўтра пойдзеш з сынам і пачнеш валіць. А на распілоўку я падкіну людзей, дамоўлюся са старастам,— і ўжо сурова і пагражальна дадаў: — А каму і навошта спатрэбіліся дубы — не твая справа! Ясна?

Засмучоны, з болем у сэрцы вярнуўся Ігнат Макаравіч у сваю леснічоўку. Здавалася, лягчэй было б яму адсекчы ўласную руку, чым высечы гэтыя дубы. Каля іх ён заўсёды ўспамінаў самае светлае ў сваім жыцці, каля іх мацнела яго ўпэўненасць у непарушнасці ўсяго таго, што было заваявана ў семнадцатым, яго надзея, што вернуцца нашы — родная ўлада, яго сыны, а з імі — гаспадарскі парадак у лесе,

у полі... І вось дубоў не стане. Куды ён пойдзе адпачываць душой, памарыць, пагутарыць?

Сын Косця, адразу ўбачыўшы, што бацька нечым вельмі ўсхваляваны і засмучоны, спытаў:

— Ты чаго, тата, сёння чарней ночы?

— Сэрца гарыць, сын. Гад гэты,— ён кіўнуў у бок канторы, — ведаеш, што надумаў? Высечы нашы дубы.

— Крылоўскія?

— Ды мала таго — загадаў, каб гэта зрабілі мы з табой, сваімі рукамі...

— Ну, гэтага не дачакаецца! Раней сам здохне!

— А што рабіць, Косця? Ён, канечне, ведае ўсё і падкопваецца не толькі пад дубы, але і пад нас... пад мяне...

— Надумаем, тата.

— Калі думаць? Няма калі думаць.

— Цэлая ноч наперадзе,— адказаў Косця. Ігнат Макаравіч не надаў асаблівай увагі гэтым яго словам, нават расчаравана падумаў, што сын не надта прыняў да сэрца вестку аб пагрозе дубам, а проста, па маладосці, сказаў гарачыя словы.

Ігнат Макаравіч застаўся сам са сваім горам, са сваімі цяжкімі думкамі.

Адвячоркам Косця пайшоў у вёску. Бацька і маці ведалі, што ён мае дзяўчыну, і цешылі сябе думкай, што неўзабаве сын прывядзе ў хату нявестку, а таму заўсёды далікатна маўчалі, калі ён збіраўся ў вёску. Хіба толькі маці прасіла:

— Сынок, асцярожна хадзі. Час ваенны. Немцам ды паліцаям кожны чалавек здаецца за партызана.

Усю тую ноч не спаў Ігнат Макаравіч. На досвітку збегаў да дубоў, паглядзеў на іх, наслухаў шум іх маладога лісця, і яшчэ больш жаль агарнуў яго сэрца. Вось і ноч прайшла, а ён нічога не прыдумаў.

«Косця сказаў: «Цэлая ноч наперадзе». Сядзеў ты, сыне, усю ноч са сваёй Галькай і забыўся пра ўсё на свеце. Эх, маладосць!»

Вяртаючыся ад дубоў, ляснік пачуў стук сякеры і рушыў туды. На парубку ён не звяртаў цяпер увагі, няхай сякуць людзі! Гэтыя бярвенні і дровы сагрэюць сваіх людзей і менш дабра застанецца ворагу вывозіць на чужыну.

Парубшчык — стары «лясны злодзей», з якім Ігнат Макаравіч вёў вайну ўжо гадоў дваццаць, весела прывітаў яго:

— Здароў быў, Макаравіч. Што ж гэта ты не ідзеш хаваць свайго начальніка? Глядзі, прыпішуць табе непавагу да новай улады...

— Якога начальніка? — здзівіўся ляснік.

— Як? Ты нічога не ведаеш? Вось табе і на! Ды гэтаму Пцічкіну-Сінічкіну вашаму трыбухі выпусцілі...

— Хто? Калі?

— Сёння ўночы. Хто — невядома. Ходзяць чуткі — свой свайго... Паліцай Кулік. Не падзялілі гэтую... Кацьку... Яны ж абодва да яе швэндаліся. Вось каля яе хаты і ўсадзілі яму ў жывот нямецкі штык. Бяжы, брат, на пахаванне. Ды пасля заходзь — вып'ем на радасці... Я бочкі прадаў.

Стрымана развітаўшыся, Ігнат Макаравіч што ёсць сілы кінуўся дадому. Сэрца рвалася з грудзей: Косця! Гэта зрабіў Косця! Страх за яго гнаў бацьку хутчэй даведацца, што з ім, дзе ён цяпер.

Косця, відаць, вярнуўшыся з вёскі позна, спаў на сене, на вышках у хлеўчуку. Але на сонным твары хлопца — ці можа бацьку так здалося? — адбівалася трывога. Ігнат Макаравіч разбудзіў сына і таямнічым шэптам спытаў:

— Скажы, сынок, гэта ты... гада таго?..

Косця працёр вочы, пільна паглядзеў на бацьку і даверліва адказаў:

— Не я асабіста. Наша група. Хлопцы.

З таго дня стары ляснік стаў удзельнікам падпольнай камсамольскай групы. Дапамагаў хлопцам хаваць зброю, разносіў па навакольных вёсках і пасёлках лістоўкі, быў сувязным паміж групай і партызанскім атрадам. А пасля, ужо ў сорак трэцім годзе, разам з хлопцаМі, з сынам пайшоў у атрад.

У час блакады, у якую трапіла іх партызанская брыгада, за ракой Косцю раніла. Сябры вынеслі яго з блакады, але ўратаваць не змаглі: Косця памёр ад гангрэны на руках у бацькі. Ігнат Макаравіч прывёз цела сына ў свой лес і пахаваў тут, пад дубамі, побач з магілай Крылова.

Ніжэй апусцілася асенняе сонца за лес. Згусціліся цені, зніклі сонечныя плямы на зямлі, засыпанай лісцем. Аднекуль з далёкіх палёў прыляцеў больш напорлівы вецер. Першым загаманіў стары дуб, пад якім сядзеў ляснік, зашаптаў таямніча і паважна, як бы баючыся парушыць агульную ўрачыстасць. Але моладзь адгукнулася вясёлым шумам. Закружыўся паміж дрэў рой таго лісця, якое восень ужо спаліла сваім дыханнем. Часцей зачмякалі аб зямлю жалуды.

Ігнат Макаравіч узняў галаву, паглядзеў на маладыя дрэвы, і добрая ўсмешка асвяціла яго хмуры, задумлівы і заклапочаны твар, густа ўзараны маршчынамі.

Растуць дубы... Шумяць, як жывы помнік людзям, іх справам. Лесніка заўсёды радуе думка, што ў тую цяжкую часіну, у гады

вайны, калі ён быў у атрадзе і лес па сутнасці ніхто не сцярог, тут, на гэтай дзялянцы, не высеклі ніводнага дрэўца. Шануюць людзі памяць аб Крылове, аб яго Косціку... Цяпер сюды яшчэ часцей, чым да вайны, прыходзяць піянеры, і ён расказвае ім аб усім, што адбывалася ў гэтым лесе. Праўда, нялёгка яму расказваць пра смерць сына: не гоіцца гэтая рана ў бацькавым сэрцы.

Але жыццё — яно ўсепераможнае, яно заўсёды прыносіць чалавеку новыя радасці. За радасцю вызвалення — зварот сыноў... А потым — нараджэнне ўнукаў. Дзяцей Міколы ён бачыць амаль штодня, яны — побач, у калгасе. А ўлетку на дачу ў яго леснічоўку прыязджаюць дзеці Паўла і Арсенія. І яму, старому, прыемна і радасна знаёміць іх, дзяцей горада, з таямніцамі лесу.

Яму хочацца, каб яны ці хоць бы хто-небудзь адзін з іх палюбіў лес так, як любіць ён, іх дзядуля, як любілі Крылоў і Косця...

І праца прыносіла радасць. Яе было многа ў пасляваенны час. І з кожным годам яе становіцца больш: пановаму, па-навуковаму вядзецца цяпер лясная гаспадарка, усё больш і больш пасадак, праполак, санітарных рубак, прачыстак. Праца...

Стары ўздыхнуў і зноў паглядзеў на вяршаліны маладых дубоў. Адвечнае дрэва дуб! Гэтым, крылоўскім, ужо за сорак год, а яны зусім яшчэ маладыя. Ім расці, жыць яшчэ сотні гадоў.

А вось яму без года семдзесят, і ён — чаго таіць! — адчувае старасць. Сёння ляснічы зноў, праўда, як заўсёды, далікатна, прапанаваў яму пайсці на пенсію. І маладыя леснікі пачалі ўгаворваць, распісваючы на ўсе лады, якое гэта шчасце — адпачываць, жыць на пенсіі. Дзіўныя людзі! Далікатнічаюць, хітруюць. Навошта? Сказалі б проста: пастарэў, Ігнат Макаравіч, цяжка табе, не ўпраўляешся ты часам... Хіба ён сам не разумев, не адчувае? Але, нялёгка ўжо з цямна да цямна бегаць па абходзе, сачыць, каб не ўзнік дзе пажар, даглядаць пасадкі, адпускаць дровы, лесаматэрыялы... Ды хіба мала яе, самай разнастайнай работы! Гэта толькі людзі, якія не маюць уяўлення, думаюць, што праца лесніка — лёгкая і не вельмі адказная. Не, цяжкая гэта праца і неспакойная. І сапраўды яму нялёгка ўжо. Баляць ногі, спіна, стамляецца сэрца...

«Ты толькі не крыўдуй, Ігнат Макаравіч. Мы ад усяго сэрца»,— сказаў ляснічы.

А завошта крыўдаваць? Дзівакі хлопцы. А што ён буркнуў як бы нездаволена, злосна: «Падумаю»,— дык гэта характар у яго такі. А што тут доўга думаць! Думаць няма чаго.

— Пайду на пенсію. Буду гадаваць унукаў,— вырашыў ён уголас.

Дубы зноў зашумелі. І старому здалося, што зашумелі яны ў гэты раз нездаволена, сумна. І яму таксама стала сумна. Ён сказаў ім, як жывым істотам:

— Нічога. Я вас не пакіну. Я заўсёды буду з вамі.

Як усякі просты чалавек, які пражыў нялёгкае працоўнае жыццё сярод прыроды, ён спакойна, без страху, без жалю да сябе часам думаў пра смерць. Ён не толькі ргізумеў няўмольны закон прыроды, ён прымаў яго душой. За сваё доўгае жыццё ён бачыў, як паміраюць людзі і як паміраюць дрэвы. Яму лягчэй, чым многім іншым: яго жыццё прадоўжыцца ў сынах, ва ўнуках, у дубах, у лесе, што пасаджаны яго рукамі.

Але, калі ён часам думаў пра гэта, з'яўлялася адно жаданне, якое ён нікому не выказаў, акрамя свайго вернага друга — жонкі. Яму хацелася, каб яго пахавалі тут, пад гэтымі дубамі, побач з Крыловым і сынам. Хацелася, каб настаўнік, які прывядзе сюды будучых піянераў, мог сказаць некалькі слоў, між іншым, у самым канцы гутаркі:

— А тут, дзеці, пахаваны ляснік, які амаль паўвека вартаваў народны лес, пасадзіў гэтыя дрэвы і вырасціў сыноў, такіх жа моцных і непахісных, як дубы.

